PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (2219) Год XLIII Беласток 22 лістапада 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Патрэбнае гаспадарчае ажыўленне

Аляксей Мароз

— Найважнейшая справа для Гайнаўшчыны — гаспадарчае ажыўленне. Маладыя ўцякаюць, бо не бачаць перспектыў на будучыню, — сказаў Уладзімір Пятрочук, нававыбраны староста Гайнаўскага павета. — Хацелі б мы стварыць хаця б некалькі сотняў новых месц працы.

6 лістапада 1998 года ў Гайнаўцы адбыліся дзве сесіі Рады павета, на якіх выбраны былі ўлады. На першай сесіі прадбачаліся толькі прысяга радных, выбар старшыні і вызначэнне даты другога пасяджэння. Як пасля аказалася, адбылося яно ўпрытык з першым.

У выбарах у Раду Гайнаўскага павета перамагло СЛД, якое на 25 месцаў увяло ажно 16 сваіх радных і магло прапанаваць свайго кандыдата на старшыню. Стала ім Вольга Рыгаровіч (СЛД), войт гміны Гайнаўка, якая на выбарах атрымала найбольш галасоў (больш за 1600). У тайным галасаванні падтрымалі яе 23 радныя. Старшыня другое пасяджэнне вырашыла правесці яшчэ ў той жа дзень.

Другая сесія пачалася ад выбару намеснікаў старшыні. Трэба нагадаць, што Раду складаюць яшчэ 5 радных ад БНВК, 3 — ад АВС і 1 — ад кааліцыі „Разам". Прапанаваны былі дзве кандыдатуры. Дырэктар падставовай школы ў Чаромсе Мікалай Міхальчук (СЛД) атрымаў 21 галасоў, а дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко (БНВК) — 16 галасоў, і абодва сталі намеснікамі.

Старастам Гайнаўскага павета стаў радны Уладзімір Пятрочук, уласнік Бюро падаткавай кансультацыі ў Гайнаўцы, старшыня Гайнаўскага выбарчага паразумення СЛД, намеснік старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Галасавала на яго 21 радных, а на выбарах атрымаў ён у Гайнаўцы найбольш галасоў (больш за 400). Яго намеснікам аднагалосна выбраны быў Ежы Сірак (СЛД), у папярэднім скліканні сакратар гайнаўскага магістрата. Ва Управу павета выбраны былі чатыры радныя: Ян Іванюк (СЛД), войт гміны Нарва, Уладзімір Пятрочук (СЛД), настаўнік Падставовай школы ў Старым Корніне, Грыгорый Тамашук (БНВК), намеснік дырэктара ЗОЗа (установы па ахове здароўя), Яўген Валкавыцкі (СЛД), дырэктар Падставовай школы ў Нараўцы.

— Станоўча ацэньваю выбар улад павета і думаю, што супрацоўніцтва паміж СЛД і БНВК будзе добрае, — заявіў старшыня БНВК у Гайнаўцы Мі-

[працяг ☞ 3]



## Усё залежыць ад людзей

**З генеральным сакратаром сусветнай арганізацыі праваслаўнай моладзі „Сіндэсмас" Уладзімірам МІСІЮКОМ гутарыць Ада Чачуга.**

***— Слова „Сіндэсмас" абазначае саюз, аб'яднанне. Калі і дзе было створана сусветнае брацтва праваслаўнай моладзі?***

— У 1953 годзе ў Парыжы.

***— Тры гады таму, ад часу, калі Вас выбралі генеральным сакратаром „Сіндэсмаса", генеральны сакратарыят быў пераведзены з Фінляндыі ў Беласток. Скажыце, калі ласка, як выглядае тут Ваша штодзённая праца? Ці Вы адказныя за ўсе мерапрыемствы?***

— Не! Нас абавязвае каардынацыя. Мы падрыхтоўваем праграмы мерапрыемстваў, даем інфармацыю, якая плыве на цэлы свет, прымаем заяўкі і перадамляем у адпаведную краіну, хто возьме ўдзел у адпаведным мерапрыемстве. Вядома, часамі нехта ад нас таксама туды едзе, каб дагледзець усё, але не заўсёды.

***— Колькі членаў у Вашай арганізацыі?***

— **Сто дваццаць членаў**, але член гэта **не асоба, а арганізацыя**: брацтвы праваслаўнай моладзі ці багаслоўскія школы з амаль **пяцідзесяці краін свету**.

***— Дзе члены „Сіндэсмаса" дзейнічаюць найбольш актыўна?***

— Найактыўней яны дзейнічаюць там, дзе праваслаўе ў меншасці. Першы прыклад — праваслаўныя брацтвы ў Польшчы, у Фінляндыі. Праваслаўныя брацтвы ў Польшчы заўсёды арыентаваліся на Фінляндыю.

***— Вы на працягу двух гадоў здабывалі багаслоўскую адукацыю ў Злучаных Штатах. Як там выглядаюць справы праваслаўных?***

— Праваслаўных там многа, але яны падзелены. Грэкі — сабе, рускія — сабе, а румыны — сабе, ды і арабы таксама.

***— А беларусы?***

— Яны якраз падзелены найбольш. Не досыць таго, што іх мала, дык яны яшчэ падзелены на тры царкоўныя юрысдыкцыі: дзве беларускія аўтакефальныя цэрквы і адна — у юрысдыкцыі Канстанцінопаля. Да таго ж шмат беларусаў належыць да іншых юрысдыкцый, дзе яны не выступаюць як асобная этнічная група. Там яны змешаны з амерыканцамі, грэкамі і іншымі нацыянальнасцямі.

У такой сітуацыі яскрава відаць прыклад „Сіндэсмаса", які аб'ядноўвае ўсе праваслаўныя юрысдыкцыі.

***— Ці шмат праваслаўных у Афрыцы?***

— О, у Егіпце, Кеніі, Эфіопіі, Угандзе, Зімбабвэ, Камеруне, Конгу, Гане, Нігерыі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, — ва ўсіх гэтых краінах ёсць маладзёжныя праваслаўныя арганізацыі, якія сталі членамі „Сіндэсмаса".

***— Як праваслаўе завандравала ў Афрыку?***

— Місіянераў там не было. Афрыканцы самі знайшлі праваслаўе. У пачатку гэтага стагоддзя ва Угандзе былі ўжо ахрысцілі іх англічане з англіканскай царквы. Аднак жа хутка афрыканцы ўбачылі, што тыя місіянеры не ўсё робяць так, як гавораць.

Па-англійску афрыканцы чыталі

[працяг ☞ 4]

## Здаецца, усё будзе па-старому

Такога ходу галасавання можна было спадзявацца, бо ў народзе хадзілі чуткі, што войт мае за сабою дзесяць гмінных радных, якія будуць галасаваць паводле ягоных указанняў. Першае галасаванне паказала, што гэта праўда. Далейшую частку сесіі павёў стары новы старшыня, які заявіў, што сесіі будуць весціся вельмі дакладна.

[з гміннай сесіі ☞ 3]

## Свінскі лыч у далікатэсах

Беластоцкі мясакамбінат, напрыклад, амаль не мае цяпер канкурэнтаў у горадзе і ваяводстве, таму штораз горшыя вырабы можа прадаваць па такой самай цане як раней, хаця цана сыравіны рэзка пайшла ўніз. Мясаперапрацоўчыя прадпрыемствы, а таксама гандлёвыя фірмы прывыклі да высокага прыбытку і імкнуцца яго затрымаць на такім жа ўзроўні нават у сітуацыі зніжэння попыту.

[рынак ☞ 4]

## Невычэрпная крыніца песні

Вядома, найбольш пра хор гарадскога аддзела БГКТ можа расказаць не хто іншы, як Люба Гаўрылюк. Бо гэта ж у яе хаце ўсё пачалося пятнаццаць гадоў таму.

[юбілей ☞ 5]

## Зноў чуеш словы

Ці жыццёвыя сцежкі завядуць якога-небудзь аўтара са зборніка „Зноў чуеш словы" ў г.зв. спелую літаратуру — вядома ж, час пакажа. Калі б так сталася — адбылася б цудоўная рэч. За апошнія дэкады не было ў нас яркага дэбюту. Трэба яшчэ сцвердзіць, што і не стварaліся ўмовы, якія дэбютам такім паспрыялі б.

[паэтычны зборнік ☞ 8]

## Вялікая кніга наіўных

У Польшчы абавязвае закон аб ахове асабовых даных. Здавалася б, што з моманту ўступлення яго ў сілу хатнімі адрасамі грамадзян без іх ведама перастануць карыстацца рэкламныя фірмы, якія абманваюць прастадушных людзей. Аднак закон законам, а жыццё нясе свае карэктывы. Застаецца асцярожна ставіцца да „суператракцыйных прапаноў", якімі закідаюць грамадзян нядобрасумлення дзялкі.

[падман ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Сагрэлі нашы паўночныя душы...



*Таццяна Караткевіч-Цыганок — старшыня праўлення Беларуска-эстонскага культурна-асветнага аб'яднання „Спадчына" і Вольга Жукова — дырэктар Лепельскага дома рамёстваў — у Беларускай хаце.*

Кніга водгукаў, як, дарэчы, і кніга скаргаў можа распавядаць уважліваму чытачу не меней, чым якасна напісаны артыкул журналіста. Проста таму, што аўтар у сваім матэрыяле не можа выразіць усе н'юансы настрою і ўражанняў наведвальніка выставы ці ўдзельніка якога-небудзь мерапрыемства, — расказвае **Таццяна Караткевіч-Цыганок** з горада Нарва ў Эстоніі, арганізатар **„Беларускага падворка"** (кірмаш народнай творчасці, майстар-класы і выстава мастакоў Віцебскай школы жывапісу), што праходзіў у Нарвскай мастацкай галерэі на працягу цэлага тыдня (9-15 кастрычніка г.г.). Была гэта падзея значная.

„Дзякуй! Сагрэлі нашы паўночныя душы", — быў першы запіс. „Рада была наведаць выставу народнай творчасці Беларусі. Толькі ў народным мастацтве няма ўплыву ідэалогіі, эканомікі і палітыкі. Яна яднае і зближае людзей..." — „Выстава унікальная па сваёй тэматыцы і прафесіяналізме. Асабліва радуе жывы кантакт з мастакамі, магчымасць падзяліцца прафесійнымі ідэямі і думкамі. Кераміка выдатная і самабытная. Дзякуй!" — такое ўспрыманне творчасці беларускіх майстроў у выкладчыка Нарвскай мастацкай школы. „Дзякуй вялікі за падтрымку ідэй Нарвскага беларускага аб'яднання „Спадчына" прадстаўнікамі гістарычнай радзімы. Гэта цудоўна, калі на працягу тыдня ў Нарве змог існаваць шчаслівы куток беларускай культуры. Нам, татарам, быць тут было вельмі прыемна". Дзякуюць таксама і браты-украінцы, „що предаете свою культуру новим поколінием". Асабліва кранаюць водгукі дзяцей: „Дзякуй за прыгажосць, любоў для прыроды. Я ў вас шмат чаму навучылася", — піша дзесяцігадовая дзяўчынка. „Классно! Лепка восхитительна, если пытаешся сделать что-то сам!" На „Беларускі падворак" завіталі супрацоўнікі рускага канала рэспубліканскага Радыё-4, у тым ліку вядучыя нацыянальных перадач з Таліна. Яны на эстонскай мове пакінулі словы захаплення і ўдзячнасці. „Дзякуй вам, што захоўваеце сваю культуру ў наш цяжкі час. Рабіце і ствараце свае цуды і пакажыце ўсяму свету і ўсяму вашаму народу. Чакаем вас у Нарве", — выказаліся вучні адной нарвскай школы (было вельмі шмат школьных экскурсій). Ад імя эстонскай супольнасці г. Нарвы падзякаваў намеснік загадчыка аддзела культуры спадар Яан Ліндэ.

Са свайго боку арганізатары праекта „Беларускі падворак" задаволены тым, што мэта дасягнута. Знаёмства з культурай беларускага народа пачата з прадстаўлення вялікага блока народнай творчасці. Напярэдадні традыцыйных Пакроўскіх гульняў нарвіцяне і госці горада (ехалі жыхары Сіламяэ, Нарва-Йыэсуу, Йохві, Кохтла-Ярве) былі сведкамі і ўдзельнікамі нацыянальных абрадаў (у тым ліку традыцыйнага для Пакровы абрада сватаўства), фальклорных гульняў. Як на кірмашы, не толькі разглядалі вырабы майстроў, але ж і спявалі і танчылі з арганізатарамі фальклорных гульняў спадарыняй Наталляй і музыкай Несцеркам (спадаром Валерыем — кіраўніком Лепельскага раённага метадычнага фальклорнага цэнтра). А галоўнае тое, што дзеці і бацькі нядзельнай школкі пры беларуска-эстонскай суполцы „Спадчына" і ўсе жадаючыя далучыліся да найбольш распаўсюджаных на Беларусі рамёстваў (ткацтва, пляценне паясоў, пляценне з лазы, саломкі і стружкі, выцінанка, састаўленне абрадавых кампазіцый, фларыстыка, выкананне народных строяў, кераміка). Пад кіраўніцтвам высокапрафесійных настаўнікаў — 7 працаўнікоў Лепельскага дома рамёстваў — члены Саюза майстроў Рэспублікі Беларусь — асвойвалі асновы названых рамёстваў. Вялікая колькасць дарослых і дзяцей атрымала мацнейшы творчы імпульс. На базе „Беларускага падворка" былі праведзены гарадскія семінары выхавацеляў дзіцячых садкоў і настаўнікаў працы, выяўленчага мастацтва, сусветнай мастацкай культуры, музыкі. А беларусы з Беларусі пабывалі ў суайчыннікаў з Йыхві — у БЭЗаўцаў, у Таліне, а таксама пазнаёміліся з Эстоніяй, з яе найпрыгажэйшымі і найбольш значнымі мясцінамі (гэта Пюхціцкі праваслаўны манастыр у Курэмяэ і Нарва-Йыэсуу, узбярэжжа Балтыкі і Лахемаанскі запаведнік, Пуртсэ, Палмсэ і знакамітыя эстонскія вадаспады, стары горад у Таліне).

Трэба адзначыць, што фінансаванне праекта „Беларускі падворак" адбылося праз Міністэрства культуры Эстоні і фонд Kultuurikapital. Таксама была значная падтрымка беларусаў горада. Спадар Дзмітрый Чопчыц (ён дэпутат народнага сходу) фінансаваў і правёў нацыянальную вечарыну, выдзеліў у працоўным будынку два пакоі для заняткаў нядзельнай школкі. Спадар Уладзімір Міжуй значна знізіў тарыфы пры разліку за снеданне і пражыванне ў ягоным гатэлі. Сям'я Валерый і Валянціна Жураўлёвы арганізавалі ў сваім гасцінным доме (дзе перабыла вялікая колькасць беларусаў) развітальную імпрэзу.

— Радуе падтрымка беларускасці ў Эстоніі такімі трывалымі людзьмі, — кажа Таццяна Караткевіч-Цыганок. — Для нас, беларусаў, значна тое, што нас не толькі паважаюць, але і падтрымалі праект віцэ-мэр г. Нарвы спадарыня Галіна Мальдок, старшыня гарадской камісіі па культуры і спорту Анна Калядзіна і іншыя. Нашы бацькі і дзеці беларусы малайцы — працавалі ўвесь гэты час на 200%. Гэта Шкледы, Трэумавы, Гарбачовы, Максім Максімаў, Марыя і Максім Цыганок...

Так многа пра нашых у Эстоніі. А нас, на Беласточчыне, больш чым іх. А яны свецяць нам прыкладам.

**Міра Лукша**

*Фота Машы Цыганок*

## Правы чалавека ў Беларусі

**(люты — кастрычнік 1998 г.)**
**Рэжым праводзіць антынацыянальную палітыку**

Пайшла трэцяя гадавіна выкаранення беларускай мовы з навучальных устаноў краіны. Ліквідуюцца беларускамоўныя садкі і класы. За тры гады колькасць першакласнікаў, якія пайшлі ў класы з беларускай мовай навучання скарацілася ў два з паловай разы.

Стварылася сітуацыя, калі ў сталіцы Беларусі б'юць за беларускую мову. 25-гадовы Алесь Піткевіч і яго 19-гадовыя сябры Зміцер Міронаў і Алесь Поклад у ноч з 13 на 14 красавіка ішлі паўз мінскі Камароўскі рынак. Пачуўшы іхнюю гаворку ахоўнікі Камароўкі пачалі называць хлопцаў „фашыстамі", збіваць і, урэшце, нацкавалі службовых сабак. Пасля чаго хлопцы апынуліся ў савецкім РАУСе, дзе іх працягвалі збіваць. У Алеся Піткевіча дактары канстатавалі страсенне мозга і пашкоджанне скуры і мышачных тканак. Зміцер Міронаў трапіў у 2-ую мінскую гарадскую бальніцу.

У мінскай СШ № 37 з агульна-этычным ухілам разгарэўся палітычны скандал: паміж беларускамоўнай настаўніцай Леанардай Мухінай і дырэктарам школы Валянцінай Галкінай. У сярэдзіне сакавіка 1998 г. дырэктар школы ў прысутнасці педагогаў зачытала ліст, быццам бы напісаны бацькамі школьнікаў, у якім Л. Мухіна абвінавачвалася ў непрафесіяналізме, сцвярджалася, што замест вучобы Л. Мухіна займаецца з дзецьмі палітыкай. Дырэктар настойвала на звальненне Л. Мухінай. Падставай для гэтага паслужыла затрыманне міліцыяй сына Л. Мухінай. Л. Мухіна правяла апытанне сярод бацькоў, высветлілася што ніхто з бацькоў гэты ліст не падпісваў. Ліст быў сфабрыкаваны. Даведаўшыся аб гэтым бацькі вырашылі правесці ў школе сход, на які запрасілі журналіста і загадчыка РАНА Юрыя Казанса. У клас, дзе праходзіў сход, карэспандэнта радыё „Свабода" Эдварда Тарлецкага загадчык РАНА не пусціў. 21 красавіка 1998 падчас судовага працэсу паміж Л. Мухінай і В. Галкінай у залу пасяджэнняў суда Цэнтральнага раёна для дачы паказанняў былі запрошаны пераважна прадстаўнікі РАНА і адміністрацыі школы. Журналістаў у залу суда прапусціць сакратар суда катэгарычна адмовіўся.

*З рапарту Праваабарончага цэнтра „Вясна-96"*

## Новая адміністрацыя, новая газета?

Прэсавы рынак, як і іншыя галіны жыцця ў нашай краіне, падлягае правілам эканомікі. Апошнім часам натварылася ў нас многа перыядычных выданняў, з ліку якіх частка абанкруцілася, як хаця б беластоцкі „Кур'ер падляшскі". Упаў таксама некалькі разоў аднаўляемы рознымі выдаўцамі бельскі „Тыднёвік падляшскі", у які і я пісаў, таму ведаю гэтае набалелае пытанне. Лічу, што такая лакальная газета проста неабходная ў раёне Бельска і Гайнаўкі. Цяпер у Бельску няма лакальнага друку, а ў Гайнаўцы выдаванне мясцовай газеты было спынена да часу рашэння новай гарадской рады.

З 1 студзеня 1999 года створыцца новая палітычна-адміністрацыйная сітуацыя: пачнуць дзейнічаць паветы, якія будуць распараджацца большымі фінансавымі сродкамі чым гміны. Маглі б яны ініцыяваць выдаванне лакальных газет, якія сваім абсягам абымалі б адзін або некалькі паветаў. Такія газеты павінны імкнуцца да фінансавай незалежнасці і кіравацца правамі рынку. На такіх прынцыпах мог бы быць адноўлены „Тыднёвік падляшскі" або створана новае выданне. Мне, беларусу, хацелася б мець на нашых этнічных землях, на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, лакальную газету. Наўрад, ці будзе гэта магчымае, калі ў адным павеце правяць левыя, а ў другім — правыя.

**Славамір Кулік**

Намесніку старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Музея
і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы
Яну ХІЛІМАНЮКУ
шчырыя спачуванні з прычыны напаткаўшага Яго гора —
смерці Жонкі —
выказваюць члены Грамадскага камітэта і супрацоўнікі Музея.

# Маладая Рада

У час першай сесіі Гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных, якая праходзіла 30 кастрычніка 1998 года, радныя вырашылі, што выбар войта і Управы адбудзецца падчас наступнага пасяджэння, а апрача інфармацый былога войта Анатоля Паўлоўскага аб працы Управы за апошні год, выберуць толькі старшыню Рады і яго намеснікаў.

Паколькі гміна Дубічы-Царкоўныя меншая ад іншых, радных там толькі пятнаццаць. Большасць сярод іх гэта маладыя хлопцы ва ўзросце 25-30 гадоў.

— Старэйшыя ў нас знеахвоціліся да мясцовай палітыкі, дык маладыя паспрабавалі сіл, — кажа радны Юрый Вапа з Доўгага Броду. — Амаль усе нашы радныя кандыдавалі не з партыйных спіскаў, а з вясковых камітэтаў. Нашы людзі не вельмі ахвотна галасуюць на канкрэтныя групоўкі, а найахвотней бачылі б у Радзе людзей, якія вырашалі б праблемы іх вёскі. Я, напрыклад, кандыдаваў з камітэта „Самі пра сябе", які завязаўся ў маёй вёсцы, хаця ў маёй акрузе было яшчэ двух кандыдатаў.

Інфармацыі пра дзейнасць Управы за апошні год, поспехі і складанасці прадставіў войт Анатоль Паўлоўскі. Знаёміў ён новых радных з даходамі і выдаткамі гміны. Гаварыў пра невялікія падаткі ад сялян, нізкія субсідыі, якія залежаць ад колькасці жыхароў (у гміне 2 340 жыхароў), рэалізацыю даходаў і выдаткаў за апошні год. Падкрэсліў ён, што амаль 40% усёй субвенцыі складае асветная субвенцыя. Апошнім часам пракладзены быў вадаправод у Елянцы, якім карыстаецца 30 гаспадароў, асфальт у Тафілаўцах, кавалак у Грабаўцы (500 м) і 400 метраў з Дубіч у Вітава, а таксама рамонт іншых дарог. Зараз гміна задоўжана на 400 тысяч злотых, якія пайшлі на пабудову новай школы, а з Куратарыі атрымалі толькі 20 тысяч злотых дафінансавання. Аднак войт супакойваў радных, што частка гэтай задоўжанасці будзе ліквідавана. Радныя даведаліся таксама, што нядаўна ў Дубічах-Царкоўных адбылося пасяджэнне Камісіі па справе аховы Белавежскай пушчы і пераўтварэння яе ў парк. Аднак гміны не пагадзіліся на прапанаваныя Міністэрствам аховы асяроддзя ўмовы і невялікія фінансавыя сродкі для самаўрадаў. Гміна ў рамках кантракту для Пушчы пераслала міністэрству пералік патрабаванняў: выкананне водаправодаў і каналізацыі ва ўсіх вёсках, 4 ачышчальні сцёкаў, газіфікацыя ўсіх вёсак і мадэрнізацыя ўсіх публічных дарог, будова вадасховішчаў у Войнаўцы і Чахах-Арлянскіх, будова Падставовай школы, пастаўка 1 000 тэлефонаў, аблясенне 500 гектараў, будова турыстычнай базы і іншыя меншыя патрэбы. Падлічылі, што трэба будзе на гэта каля 46 мільёнаў новых злотых, што складае больш чым 20 цяперашніх бюджэтаў гміны. На падставе гэтага будуць намагацца атрымліваць сродкі, прызначаныя для аховы пушчы. Развіццё гміны войт Анатоль Паўлоўскі бачыць разам з развіццём турызму.

Пазней адбываліся выбары старшыні Рады, у якіх перамог Ян Сурэль з Ягаднік (галасавала 12 радных), які спецыялізуецца ў авечкагадоўлі. З 1984 года быў ён солтысам і радным, а апошнім часам дэлегатам у Ваяводскі сеймік. Былы старшыня Рады Сяргей Нічыпарук атрымаў толькі 2 галасы.

Намеснікамі старшыні сталі Юрый Вапа (12 галасоў) і Рыгор Шыманюк (10 галасоў).

У канцы пасяджэння радныя адмянілі папярэдняе рашэнне і правялі выбары войта. Адзіным кандыдатам быў папярэдні войт Анатоль Паўлоўскі, які выбраны быў паўторна і аднагалосна.

— Самая важная справа для гміны — пабудова школы, якую трэба закончыць як найхутчэй, хаця трэба будзе зноў браць крэдыт, — сказаў новы старшыня рады Ян Сурэль. — Што тычыцца развіцця гміны, дык трэба падтрымліваць прадпрымальнікаў і ставіць на турызм.

**Аляксей Мароз**

# Патрэбнае гаспадарчае ажыўленне

[1 ☞ працяг]
хал Голуб. — Дамову аб кааліцыі мы падпісвалі з СЛД наконт горада, а што тычыцца павета, дык была толькі джэнтэльменская размова, што і нашым кандыдатам будуць прапанавацца пасады ва ўладах павета.

— Думаем спалучыць гаспадарчыя справы з турызмам, — сказаў стараста Уладзімір Пятрочук. — Хацелі б мы пачаць газіфікацыю павета, выкарыстаць Белавежскую пушчу і Семяноўскі заліў для развіцця турызму, а памежныя пераходы з Беларуссю — для гаспадарчага развіцця. Аднак не хочам звесці наш рэгіён да ролі скансэна і будзем намагацца, каб апрача аховы пушчы можна было весці абмежаваную гаспадарку драўнінай. Можа выпрацуем нейкую развязку праз пасрэдніцтва кантракта для Белавежскай пушчы, пра які зараз шмат гавораць. Што тычыцца арганізацыі працы ў павеце, дык многа чаго яшчэ і не ведам. Будзем пераймаць раённую ўстанову з яе кадрамі, якія адразу станнуць нашымі працаўнікамі і да канца чэрвеня трэба будзе вырашыць каму прадоўжаць дамову аб працы. Не ведаем яшчэ якімі сродкамі будзе распараджацца павет, але вырашыць аб гэтым міністр фінансаў. Да першага студзеня мусім прыняць статут і вырашыць арганізацыйныя справы. Будзем намагацца, каб стварыць у Гайнаўцы суд і фінансавы аддзел, каб можна было выкарыстаць свабодныя кадры пасля ліквідацыі многіх ваяводстваў. У гэтай справе думаем ужо ехаць з бурмістрам Анатолем Ахрыцюком у Беласток. У сваёй працы будзем трымацца прынцыпу рэлігійнай і нацыянальнай талерантнасці. Так, як заяўлялі ў выбарчай праграме, будзем шукаць сродкі на завяршэнне пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і захаваць Фестываль царкоўнай музыкі.

**Аляксей Мароз**

# Здаецца, усё будзе па-старому

30 кастрычніка 1998 г. у Орлі адбылося першае пасяджэнне новаабранай Гміннай рады, якое адкрыў радны-сеньёр Сцяпан Цімафяюк са Шчытоў. Калі павестка дня дайшла да выбараў старшыні рады, радны Пятро Будка з Крывятыч запрапанаваў на гэту пасаду Сцяпана Цімафеюка, а Мікалай Баршчэўскі з Пашкоўшчыны — Яўгена Зінкевіча, старшыню рады мінулага склікання. Балаціравацца згадзіліся абодва кандыдаты.

Перад галасаваннем радны Мікалай Рэнгайла з Орлі патрабаваў абгрунтаваць кожную кандыдатуру, а самі кандыдатаў заахвочваў выступіць са сваёй праграмай дзеяння. Пры нагодзе аднёсся ён да асобы Мікалая Зінкевіча, з якім супрацоўнічаў у радзе папярэдняга склікання. „У мінулым я не галасаваў на спадара Зінкевіча і на працягу чатырох гадоў пераканаўся, што паступіў правільна. Паведамленні на сесіі прысылаліся нетэрмінова і без павесткі. Іншых радных не лічыў ён сваімі партнёрамі, дазваляў на прысутнасць на сесіях падвыпіўшага войта і нават павышаў яму зарплату". У далейшым Мікалай Рэнгайла дакараў Яўгена Зінкевіча за тое, што той прадаваў жвір на будову дарог са сваёй прыватнай жвіроўні, тлумачачы, што быццам бы жвір з гміннага кар'ера не мае адпаведнай якасці.

На зале падняўся шум. Усхваляваны Зінкевіч сказанае назваў хлуснёй, а Рэнгайла рашуча заяўляў, што гэта праўда. У канцы Яўген Зінкевіч прызнаўся: „Здараюцца такія сітуацыі, што кожны робіць памылкі. І я памыляўся, бо чалавек заднім розумам моцны". „Я сама не ведаю за каго прагаласаваць", — засмяялася радная Аліцыя Шчэпаноўская. Затым голас узяў радны Аляксандр Шыманскі, які ў святле прызнання старшыні папярэдняй рады ў памылках патрабаваў, каб той зняў сваю кандыдатуру. Гэту прапанову падтрымаў і я. Але так не сталася. Зінкевіч настойліва паўтараў, што „фармальныя справы вяліся дакладна і паводле нормаў". У выніку закрытага галасавання Сцяпан Цімафяюк атрымаў 7, а Яўген Зінкевіч — 10 галасоў.

Такога ходу галасавання можна было спадзявацца, бо ў народзе хадзілі чуткі, што войт мае за сабою дзесяць гмінных радных, якія будуць галасаваць паводле ягоных указанняў. Першае галасаванне паказала, што гэта праўда. Далейшую частку сесіі павёў стары новы старшыня Яўген Зінкевіч, які заявіў, што сесіі будуць весціся вельмі дакладна.

Рознагалоссі ўзніклі таксама пры ўстанаўленні тэрміну і спосабу выбару войта. Прапанавалася аб'явіць конкурс на гэтую пасаду, але адзінаццаць радных не згадзіліся на такую працэдуру. „Відаць з гэтага, што калі б прывесці сюды асла, вы выбралі б яго войтам", — пракаментаваў Аляксандр Шыманскі.

Першая сесія закончылася інфармацыяй скарбніка гміны Аляўціны Івановай пра бюджэт. А вечарам званілі мне жыхары Орлі, выказваючы занепакоенасць тым, што ў Арлянскай гміне чарговыя чатыры гадоў зноў панаваць будзе балаган, што гмінныя ўлады будуць пазбягаць дыялогу з грамадствам, што ў пашане будуць хітрунства і нахабства, што будуць марнавацца гмінныя грошы. Адным словам, сорам! Мабыць, выбаршчыкі рашацца адклікаць цяперашнюю раду шляхам рэферэндуму.

**Міхал Мінцэвіч**

# Пра кляшчэлеўскую „Нітэрву"

Кляшчэлеўская „Нітэрва" арганізавалася ў 1990 годзе. Заснавалі яе Ежы Залеўскі, Янка Шмукса і Уладзімір Васілюк. Фірма займаецца вытворчасцю мясных вырабаў. Свае вырабы пастаўляе ў тры фірменныя крамы ў Кляшчэлях, Чаромсе і Сямятычах. Сваёй дзейнасцю ахоплівае яна тэрыторыю Кляшчэлеўскай, Дубіцкай, Чаромхаўскай і Нурэцкай гмін.

Аб буднях прадпрыемства расказвае адміністрацыйны кіраўнік Юрка Залеўскі:

— Калі дні кляшчэлеўскага ПОМа сталі быць палічанымі, прыйшлося задумацца, што рабіць далей. Я рашыў арганізаваць невялічкае прадпрыемства. Да гэтага спатрэбіліся фінансавыя сродкі. А гэтых, на жаль, у мяне не хапала. Паспрабаваў я пашукаць для суполкі кампаньёнаў. Узялі мы крэдыт у кааператыўным банку. Фінансавую дапамогу атрымалі таксама ад Раённай управы працы ў Гайнаўцы — на пачатак гаспадарчай дзейнасці і стварэнне новых месцаў працы для беспрацоўных.

Неўзабаве пабудавалі мы каўбасны цэх, падабралі неабходныя кадры. З гэтым не было праблемы. ГСаўская масарня аддавала апошні дых, таксама як і наш ПОМ. Адтуль і прыйшлі работнікі.

— Адкуль такая назва вашай фірмы?

— Ад першых літар імён нашых жонак (Ніна, Тэрэса і Валянціна), — з усмешкай адказвае Юрка Залеўскі. — Зараз у нас працуе 16 работнікаў, з чаго сем, гэта жанчыны. Шэсць з іх з'яўляецца прадаўшчыцамі, адна вядзе бухгалтэрыю, — працягвае расказ адміністрацыйны кіраўнік „Нітэрвы". — Двух нашых мяснікоў лічацца майстрамі ў сваёй прафесіі. Выпускаем вырабы ў 34 асартыментах. Пастаўляем іх у фірменныя крамы. Забяспечваем пастаўкі для школ і дзетсадзікаў у Кляшчэлях, Мілейчычах, Нурцы і Чаромсе як і ў вайсковую часць у Нурцы. Вырабы нашы лічацца высокаякаснымі, бо сыравіна — гэта вяпручкі першага класа, як і маладая ялавічына.

— А якія ў вас праблемы? — пытаю.

— Асноўнае — недахоп сыравіны. На тэрыторыі нашай гаспадарчай дзейнасці няма спецыялістычных гаспадарак. Жывёлу купляем у паасобных сялян. Неаднойчы прыходзіцца прывозіць паўтушы з-пад Беластока. А гэта павышае кошты. Іншай адмоўнай з'явай з'яўляецца надобрасумленная канкурэнцыя, — з сумам заяўляе мой субяседнік. — На рынку прадаецца тавар без належнага санітарнага рэжыму. Мяса перавозіцца ў багажніках аўтамабіляў. Ніхто з адказных чыноўнікаў на гэта не рэагуе, хоць усе аб гэтым дасканала ведаюць...

Што ж можна дадаць да вышэйсказанага? Пэўна толькі тое, што ў рынчанай эканоміцы і дзяржаве права заўсёды знаходзяцца фортачкі для несумленных купцоў і гандляроў. Таму і словы кіраўніка Залеўскага здаюцца быць апраўданымі.

Прадпрыемства „Нітэрва" карыстаецца ў кліентаў належнай рэпутацыяй. Хацелася б, каб і ў далейшым не затрацілa яно добрай славы.

**Уладзімір Сірадук**

# Свінскі лыч у далікатэсах

Аказваецца, што рэальны капіталізм, які маем цяпер у Польшчы, можа быць таксама забаўны як раней рэальны сацыялізм, ці, як гавораць іншыя, пээнэраўскі камунізм. Раней сяляне быццам бы прадукавалі больш малака, мяса, збожжа, а ў крамах усё не хапала гэтых прадуктаў. Не хапала ў асноўным таму, што цана продажу гатовых прадуктаў была часам ніжэйшая за цану сыравіны, якую дзяржава купляла ад сялян. Ніхто не быў задаволены такім станам, але калі Цэнтральны камітэт партыі прабаваў у якім-небудзь напрамку рэфармаваць гэтую абсурдную эканоміку, якую раней сам стварыў, зараз пачынала пахнуць рэвалюцыяй. Цэны вярталіся на сваё месца, а сацыялістычны эксперымент працягваўся. На пачатку васьмідзесятых гадоў жаданне зменаў было такое вялікае, што камуністы вымушаны былі паўстрымоўваць „працоўны люд гарадоў і вёсак" пры дапамозе танкаў.

У канцы пануючы „авангард рабочага класа" дайшоў да вываду, што калі народ хоча капіталізму, тады трэба яму туды паказаць дарогу добрым прыкладам. А хто мог даць лепшы прыклад як не авангард. Як першыя рэфармаваліся ўсялякія Вільчкі, Сэкулы, Мэснэры, а пасля 1989 года як піраніі кінуліся на сацыялістычную гаспадарку піянеры капіталізму. У сродках масавай інфармацыі шмат гаварылася пра ўсялякіх „афералаў" з найвышэйшых кругоў улады, і хаця гінулі мільярды злотых, ніхто, нікому і ніколі не даказаў ніякага крадзяжу ці ашуканства. Вінаватых ніколі не было. Адзін з айцоў амерыканскага капіталізму — Рокфелер — сказаў жа: „Першы мільён трэба ўкрасці". А ад каго лепш вучыцца, калі не ад класікаў?

Цяпер мяса і мясных вырабаў дастаткова, а нават зашмат, але найдзіўнейшае, што зноў усе незадаволеныя па гэтай прычыне. Сяляне пратэстуюць супраць палітыкі ўрада, што не стварыў ім рынку збыту на мяса, збожжа, бульбу, малако. Цана кілаграма свініны сышла ўжо ніжэй 3 злотых і дасягнула ўзроўню 1996 года. У тым часе аднак вартасць залатоўкі ў параўнанні да іншых тавараў панізілася на амаль 40 працэнтаў. Здавалася б, што ў выніку зніжэння цэн на сыравіну павінны таксама ўпасці цэны на гатовыя прадукты, з чаго павінны прынамсі быць задаволены спажыўцы. Але нічога такога не атрымалася. Найтаннейшая каўбаса каштуе каля 10 злотых і, як гавораць самі вытворцы, утрыманне мяса ў гэтым прадукце ёсць невялікае. Нават шынка, якой цана набліжаецца да 18 злотых, змяшчае ў сабе 40-50 працэнтаў вады і ўсялякіх кансервантаў. Вырабы, якія экспартуюцца ў Беларусь ці Расію, маюць яшчэ горшую якасць. Калі адлічыць утрыманне вады і ўсялякай прадаўжаючай свежасць атруты ў мясных вырабах, акажацца, што цана мяса ў продажы стала на 8-9 разоў вышэйшая за тую, якую ў пунктах скупкі прапануецца сялянам.

Прычына гэтаму — перш за ўсё далёка ідучая манапалізацыя рынку вытворчасці і гандлю мяснымі прадуктамі. Беластоцкі мясакамбінат, напрыклад, амаль не мае цяпер канкурэнтаў у горадзе і ваяводстве, таму штораз горшыя вырабы можа прадаваць па такой самай цане як і раней, хаця цана сыравіны рэзка пайшла ўніз. Другой прычынай такога стану ёсць тое, што прадпрыемствы, якія займаюцца перапрацоўкай мяса, а таксама гандлёвыя фірмы прывыклі да высокага прыбытку і імкнуцца яго затрымаць на такім жа ўзроўні нават у сітуацыі зніжэння попыту.

Уваход Польшчы ў заходнееўрапейскія эканамічныя структуры пагоршыць яшчэ больш сітуацыю сялян. Гмінныя і ваяводскія ўлады, прынамсі на тэрыторыі Беласточчыны, не зрабілі за восем апошніх гадоў амаль нічога, што маго б наблізіць вёску да гаспадарчага жыцця ва ўмовах канкурэнцыі. Гміннае грамадства жыло сентыментамі па мінулай эпосе і выбірала ва ўлады людзей, якія прынамсі стваралі ілюзію вяртання да старога парадку. Не хапіла людзей, якія маглі б сказаць брутальную праўду пра эканамічную рэальнасць, а прытым праводзіць змены, якія дазвалялі б людзям дзейнічаць паводле новых прынцыпаў. Пакуль сяляне будуць мець прыбытак толькі ад продажу сыравіны, пастаянна будуць яны наракаць на свой лёс. На г.зв. Захадзе сяляне найчасцей з'яўляюцца таксама акцыянерамі суполак, якія займаюцца перапрацоўкай і продажам усяго, што вырастае на палях ці ў хлявах. Таму там такія парадоксы не здараюцца, што вэнджаны ці вараны кавалак мяса даражэйшы ў 10 разаў ад звычайнай сыравіны. Шмат часу яшчэ пяройдзе, пакуль, напрыклад, у Нарваўскай ці Чыжоўскай гмінах узнікнуць малыя малочныя заводы, мясакамбінаты, піваварні з удзелам сялянскага капіталу, якія будуць выкарыстоўваць у вытворчым працэсе мясцовую сыравіну. У найбліжэйшы час, аднак, нічога такога не здарыцца таму, што няма людзей, якія маглі б усё гэта арганізаваць.

**Яўген Міранович**

# Пленум ГП БГКТ

8 лістапада гэтага года адбыўся Пленум ГП БГКТ. На самым пачатку прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчання памяць настаўніка, журналіста, пісьменніка Міколы Гайдука, спевака Юркі Налівайкі і члена беластоцкага хору БГКТ Яўгеніі Богдан.

Пленум спалучаны быў з адкрыццём культурна-асветнага года. У яго ходзе разглядаліся дзейнасць БГКТ у мінулым культурна-асветным годзе і планы на новы перыяд, а таксама праблемы беларускай асветы і школьніцтва. Прысутныя заслухалі яшчэ інфармацыю аб адносінах цэнтральных і тэрытарыяльных улад да спраў дзейнасці беларускай нацыянальнай меншасці ды пра беларускія справы ў працах паслоў Сейма.

Справаздача сакратара ГП Валянціны Ласкевіч і дыскусія ўдзельнікаў Пленума паказала, што на ўсе мерапрыемствы БГКТ, а было іх амаль 80, ёсць грамадскае запатрабаванне. Самымі многалюднымі мерапрыемствамі былі народныя беларускія фэсты (якіх было больш за 20), Купалле ў Белавежы, агляды калектываў і гала-канцэрт Фестывалю беларускай песні. Закраналіся справы Беларускага музея ў Гайнаўцы і выдання „Беларускага календара". Члены ГП адобрылі справаздачу і прынялі план працы на наступны культурна-асветны год.

Валянціна Ласкевіч паінфармавала таксама і аб тым, што Прэзідыум ГП у чэрвені выступіў у Міністэрства культуры з прапановай арганізаваць у Беластоку Фестываль песні нацыянальных меншасцей.

На Пленуме многа гаварылася аб беларускім школьніцтве, аб цяжкасцях з павелічэннем колькасці навучэнцаў роднай мовы і аб наборы выпускнікоў беларускіх ліцэяў на вучобу ў вышэйшых навучальных установах Беларусі. У гэтай справе пастаноўлена, што першынство маюць выпускнікі беларускіх ліцэяў, якія, як мінімум, маюць чацвёрку з найважнейшых у выбранай вышэйшай школе прадметаў. Выпускнікі іншых сярэдніх школ будуць накіроўвацца ў Беларусь толькі тады, калі не будзе выкарыстаны ліміт. Павінны яны практычна ведаць беларускую мову і мець мінімум добрую ацэнку з асноўных на выбраным факультэце прадметаў.

Пра адносіны ўлад да беларускіх спраў гаварыў старшыня ГП, пасол Сейма РП Ян Сычэўскі. Падкрэсліў ён асабліва моцна, што БГКТ прыйдзецца працаваць у яшчэ цяжэйшых фінансавых умовах. Нягледзячы на тое, што для ГП БГКТ не прызначаюцца грошы на штаты і ўтрыманне памяшкання ГП, дык у наступным годзе бюджэт для нацыянальных меншасцей будзе значна зменшаны, асабліва для БГКТ. Адначасова старшыня выказаў удзячнасць уладам тых гмін, якія ўключаюцца ў арганізацыю фэстаў. Але не ўсе гміны гэтак робяць, нават у беларускіх асяроддзях. Напрыклад, горад Беласток, які выдае на польскую культуру аграмадныя сумы, для БГКТ не прызначыў нічога.

Нядаўна пабывала на Беласточчыне Сеймавая камісія па справах нацыянальных меншасцей на чале з Яцкам Куранем. Члены камісіі праяўлялі зацікаўленне будовай школ у беларускім асяроддзі, сустракаліся з гміннымі ўладамі, а ўлады горада Беластока і Беластоцкага ваяводства, як сказала сакратар ГП, не пажадалі спаткацца з гэтай камісіяй і такім чынам праігнаравалі беларускія справы і ў горадзе і ваяводстве.

Удзельнікі Пленума вельмі крытычна аднесліся да сродкаў масавай інфармацыі, асабліва да беларускамоўных радыёперадач, якія не адлюстроўваюць поглядаў усяго беларускага асяроддзя, а толькі погляды іх аўтараў або вельмі вузкай групы беларусаў. Абурэнне выклікалі крытычныя выказванні аб Беларусі і законна выбраным прэзідэнце. Аб парушэннях правоў меншасцей у Беластоку радыёперадачы ніколі не ўспамінаюць.

Пленум, на якім выступіла 17 прамоўцаў, сваёй прысутнасцю і выступленнямі ўдастоілі генеральны консул РБ Мікола Крэчка і пасол Сейма Сяргей Плева. У пасяджэнні прысутнічаў таксама намеснік генконсула Павел Латушка.

**Міхась Хмялеўскі**

# Усё залежыць ад людзей

[1 ☞ працяг]

Біблію са слоўнікам. І менавіта там знайшлі абазначэнне: „праваслаўная царква". Прачулі, што ў Паўднёвай Афрыцы быў праваслаўны епіскап. У аднаго грэка, які меў плантацыю кавы ва Угандзе, якраз нарадзілася чарговае дзіця, і ён хацеў, каб яго ахрысціў у праваслаўным абрадзе той епіскап. Аднак жа, калі епіскап прыехаў, высветлілася, што ён не быў праваслаўны. Грэк гэта зразумеў адразу. Пасля даведаўся, што па-суседству, у Танзаніі, ёсць іншы праваслаўны святар, сапраўдны, грэк. І ён пачаў вучыць і хрысціць угандцаў.

***— Вы толькі што вярнуліся са Швейцарыі. Якія справы прывялі Вас туды?***

— Там адбывалася сустрэча па падрыхтоўцы семінара „Сіндэсмаса" ў экуменічным інстытуце ў мясцовасці Басэй. На будучы год будзем святкаваць пяцідзесяцігоддзе ад часу сустрэчы будучых заснавальнікаў „Сіндэсмаса" — актыўных праваслаўных маладых людзей, якія з'ехаліся туды з усёй Еўропы і Блізкага Усходу.

***— А сёлета, ці была выканана праграма Вашых мерапрыемстваў?***

— Усе мерапрыемствы адбыліся. Згодна з планам, засталіся толькі тры.

***— Якія з іх былі больш важныя?***

— Усе яны важныя, але найбольшыя імпрэзы гэта былі фестывалі праваслаўнай моладзі, якія адбыліся сёлета ў Грэцыі, Францыі, Егіпце (на Сінаі). Яшчэ ў гэтым годзе адбудуцца фестывалі ў Зімбабвэ і Чылі (Паўднёвая Амерыка).

Другая група мерапрыемстваў гэта курсы па падрыхтоўцы маладзёжных лідэраў. Ужо другі раз адбыліся такія курсы ў Львове, на Украіне. У мінулым годзе пасля такіх курсаў украінцы стварылі Украінскае праваслаўнае брацтва.

Сёлета такія курсы адбыліся ў Супраслі і ў Найробі (Кенія). У Сеуле (Карэя) быў праведзены семінар пра літургію, пра праваслаўную багаслужбу ў Азіі.

У студзені будучага года ў Санкт-Пецярбургу мае адбыцца нарада прадстаўнікоў багаслоўскіх навучальных устаноў, выкладчыкаў, якія працуюць у сферы рэлігійнай адукацыі, і маладзёжных кіраўнікоў. У нарадзе возьме ўдзел сто ўдзельнікаў з усяго свету.

***— Ваша арганізацыя выдае свой часопіс.***

— Так, гэта квартальнік „Syndesmos News". Рэдагуе яго айцец Ян Матусяк з Чыкага, віцэ-прэзідэнт „Сіндэсмаса". Друкуем яго тут, у нас, у „Ортдруку". Можна знайсці ў ім весткі аб дзейнасці праваслаўнай моладзі ў цэлым свеце, ды не толькі.

***— А хто з'яўляецца прэзідэнтам „Сіндэсмаса"?***

— Дзмітрый Іканому, прафесар Оксфардскага універсітэта, грэк, народжаны ў Аўстраліі.

***— У перспектыве трохгадовай Вашай дзейнасці на пасадзе генеральнага сакратара „Сіндэсмаса" ці заўважылі Вы, што Ваша праца дае плёны?***

— Усё залежыць ад людзей, ад нашых членаў, ад таго, наколькі праваслаўныя — адказныя людзі.

***— Дзякую за размову.***

*Фота Ады Чачугі*

Да 15-годдзя хору гарадскога аддзела БГКТ

# Невычэрпная крыніца песні



Зладзіла я харыстаў пасля рэпетыцыі, у чацвер. На Варшаўскай 11, у вялікай зале будынка ГП БГКТ. Яны ахвотна абселі мяне, размаўляем, а я запісваю.

Вядома, найбольш пра хор гарадскога аддзела БГКТ можа расказаць не хто іншы, як Люба Гаўрылюк. Бо гэта ж у яе хаце ўсё пачалося пятнаццаць гадоў таму.

З „Каласкоў" усе павыходзілі замуж, кажа Люба, пайшлі з Богам і жывуць добра. Засталася я, старая, (хто б сказаў!) і дачка Ала, 20 гадоў. Яна ж спявала ад дзевяці гадоў, а „Каласкі" вяла Людміла Панько гадоў восем.

Якраз у Таварыстве ішоў рамонт, і там сапраўды не было куды падзецца. Хаця „Каласкоў" не стала, то сярод людзей жылі песенныя традыцыі. Трэба было арганізаваць нешта ізноў.

У сваю хату на рэпетыцыі Люба запрасіла яшчэ Ліду Янчук і Янку Врублеўскага.

Ну, але чатыры асобы — што ж гэта за хор?! І Люба пачала дзейнічаць. Далучыліся Галіна Карбоўская, Раіса Тынявіцкая, Вера Белая. Паўгода, пакуль ішоў яшчэ рамонт у Таварыстве, калектывам кіраваў у Любінай хаце Сцяпан Копа.

Хто сёння застаўся ў хоры з тых пачынальнікаў? Няшмат: Люба Гаўрылюк, Галіна Карбоўская, Вера Белая, але хор разросся і спяваюць у ім цяпер 22 асобы. У тым ліку 11 мужчын.

Што прывяло сюды гэтых людзей? Не маюць жа яны ніякай матэрыяльнай кампенсацыі ні за страту часу, ні за выступленні, ні за даезды... Вось жа і Люба даязджае сёння з Козлікаў, Лявон Харытанюк з Заблудава, а іх мастацкі кіраўнік Віктар Маланчык — аж з Гродна.

Не, члены хору не лічаць, што час, які аддалі яны песні, страчаны. Прывяла іх сюды вялікая ахвота спяваць, замілаванне да песні. Ірэна Паўлючук, яна прыйшла ў хор восем гадоў таму, кажа: цягне нас сюды! Галіна Карбоўская: спяваць люблю! І гэтых няхітрых, але шчырых слоў дастаткова за ўсе высненні.

Харавы калектыў БГКТ — быццам сямейны. Спяваюць жа тут аж чатыры шлюбныя пары: Галена і Аркадзь Арцішэўскія, Ірэна і Антон Семянковічы, Вера і Анатоль Белыя, Уладзімір і Галіна Карбоўскія. І гэта, відаць, добра: прынамсі адзін другога не шукае і не лае за позняе вяртанне.

Арганізацыйным кіраўніком калектыву з'яўляецца актыўная спявачка Лена Арцішэўская, якая ў хоры спявае 13 гадоў, а што датычыцца мастацкага боку, дык ужо сем гадоў з калектывам працуе Віктар Маланчык, які штотыдзень прыязджае на рэпетыцыі з Гродна. На Беласточчыне няма другога такога музычнага кіраўніка, кажа Лена. Ніводзін мастацкі калектыў такога не мае. Люба дапаўняе: у яго зусім няма нерваў! А ўсе разам: наш хор дзякуючы Віктару кожны раз спявае новыя песні, бо крыніца беларускай песні — невычэрпная. І заангажаванне Віктара Маланчыка — таксама.

Ад верасня з калектывам працуе таксама харэограф Ірына Сідарук. Калектыў мае амбіцыі ісці з духам часу. На сцэне патрэбны рух.

Анатоль Сцепанюк, які нейкі час спяваў у хоры, сам парабіў для хору розныя народныя інструменты, такія, як валкаўніцу, тамбурын і іншыя, — і яны таксама ажыўляюць выступленні калектыву.

Дзе не пабываў за гэтыя гады беластоцкі хор! Не гаворачы ўжо пра тое, што аб'ездзіў Беласточчыну, выступаючы на фэстынах у вёсках, прымаў удзел у большасці мерапрыемстваў, што наладжвала БГКТ, як хаця б і штогадовае Купалле ў Белавежы, выступаў у кожным конкурсе беларускай песні і займаў не далей, як першае ці другое месца, былі і паездкі ў іншыя ваяводствы, а таксама заграніцу.

Запамяталася ім асабліва выступленне ў Быдгашчы ў 1996 годзе. Быў там агляд калектываў сеньёраў з усяе Польшчы. З'ехалася аж восемдзесят восем калектываў. Баяліся, што пры такой канкурэнцыі яны не маюць ніякіх шанцаў на перамогу. А, зрэшты, ці ўспрымуць там іх песні пра Беларусь...

Беларускія песні зрабілі фурор, і яны атрымалі Гран-пры. Радасці не было канца.

У лістападзе 1993 года ў Варшаве выступалі на другім аглядзе мастацкіх дасягненняў нацыянальных меншасцей: „Супольнасць у культуры". У Пунску былі на сустрэчы нацыянальных меншасцей, у Вэнгажэве — на аглядзе фальклорных калектываў, у Гдыні — на свяце лэмкаўскай культуры.

А колькі разоў спявалі на Беларусі! Часамі людзі там заўважалі: вось жа яны жывуць у Польшчы, а свае ж, беларускія песні спяваюць, ды па-беларуску гавораць...

Сёлета спявалі ў чэрвені ў Гродне, дзе адбывалася імпрэза „Беларусь, мая песня", выступалі па-за конкурсам, як госці зямлі Беластоцкай, два дні спявалі.

А ў верасні ўзялі ўдзел у мерапрыемстве „Беласток — Гродна", якое адбываецца ў Гродне. А, зрэшты, ці першы раз...

Толькі вярнуліся — і зараз жа пачалі мы рыхтавацца да свайго юбілею, кажуць харысты. Шкада, што Юрка Налівайка не дачакаў, уздыхаюць яны, што Раісы Тынявіцкай з намі не будзе, і Гені Богдан таксама.

Вырашылі даць нарэшце імя калектыву. Галіна Кандрусік запрапанавала, а Пятро Крук яе падтрымаў, каб даць калектыву назву „Крыніца".

Праўда, гаварылі яшчэ пра назву „Верасы", але вырашылі, што гэта асенняя кветка, а мы ж і так усе пажылыя, гавораць харысты, бо толькі адна разынка ў нас цяпер ёсць, Эва Казачук, ёй дваццаць адзін год. Дрыжым над ёю.

Больш прапаноў не было. І так засталося, што будзе „Крыніца". Усе згадзіліся, што гэта назва якраз адлюстроўвае сэнс іхняга народнага мастацтва.

**Ада Чачуга**

*Фота з архіва*

# Да ўгодкаў Слуцкага паўстання

**Дарагія Суродзічы!!!**

Мінула 78 гадоў з тае гістарычнае падзеі ў жыцці Беларускага Народу, калі 27 лістапада 1920 году ўся Случчына выступіла збройнай сілай супроць бальшавіцкага паняволеньня.

Прыквапныя рэвалюцыйныя лозунгі Леніна і кампартыі, паводле якіх зямля належыць сялянам, а фабрыкі рабочым, ператварылі сялян у рабоў бальшавіцкай зямлі, а рабочых прыкавалі да станка.

Савецкая Расія гэткім ашуканчым спосабам стварыла двухклясавую сыстэму: сяляне і рабочыя сталі нявольнікамі сацыялістычнага дзяржаўнага строю, а партыйныя — кіруючым класам узрошшым на дражджах камунізму.

Вось таму адважныя Случчакі пайшлі паміраць з гонарам, каб жыла Маці-Беларусь. Урачыста ўспамінаючы Чын Случчакоў ушануем таксама і памяць нашых загінуўшых сяброваў і сяброў і ўсіх суродзічаў, якія падчас Другой сусьветнай вайны загінулі ў змаганьні супроць акупантаў нашай Беларусі.

Хай ведаюць ворагі нашай незалежнасьці, што ніякія пагрозы, пашквілі ані тэрор не ўстрымаюць волі Беларускага Народу жыць вольным і самастойным жыцьцём.

Дык у гэты наш слаўны сьвяты дзень супольна памолімся з нашымі патрыётамі на Бацькаўшчыне за ўсіх тых, хто злажыў жыцьцё, каб жыла маці наша Беларусь.

Вечная Памяць усім загінуўшым у змаганьні за Вольнасьць нашай дарагой роднай Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!!!

**За Выканаўчы Камітэт**
**Фэдэральнай Рады**
**Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі**
**Сакратар П. Гуз**

Пішуць ліцэісты

# Сустрэча з паэтам

6 лістапада 1998 г. (пятніца) у II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы прыбыў вядомы беларускі паэт Ян Чыквін. Гэтую сустрэчу сарганізаваў дырэктар ліцэя Яўген Сачко, а садзейнічала гэтаму Іаланта Грыгарук — настаўніца беларускай мовы. На спатканне прыйшлі ліцэісты, якіх вылучылі настаўнікі беларускай мовы. Сустрэча мела наблізіць вучням тэму паэтычнай творчасці.

На пятым уроку, пасля званка, мы ўселіся і чакалі прафесара Яна Чыквіна. Неўзабаве ў клас увайшоў паэт, якому спадарожнічала настаўніца беларускай мовы Іаланта Грыгарук. Сустрэча пачалася з расказу госця пра паэзію. Сказаў ён, што пісанне паэзіі, вершаў не залежыць толькі ад натхнення, але таксама ад працы і ведаў. Расказаў ён таксама пра пачаткі сваёй творчасці ў 1957 годзе. Успамінаў, як упершыню паказаў свой верш настаўніцы. Малады паэт праявіў свае здольнасці такім чынам, што на ўроку малявання сваю працу падпісаў вершам. Прафесар Ян Чыквін паказаў нам кніжкі, якія нядаўна выйшлі з друку, а на канец прачытаў свой верш.

Гэтая сустрэча была вельмі вартаснай. Дзякуем прафесару Яну Чыквіну за прыезд у нашу школу і сардэчна запрашаем яшчэ нас наведаць. Дзякуем таксама дырэктару Яўгену Сачко і настаўніцы Іаланце Грыгарук за такую ўдалую сустрэчу.

**Анна Панфілюк**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## XV Сустрэчы „Зоркі”

6-8 лістапада г.г. у Падцэрквах, што непадалёк Белавежы, праходзілі XV Сустрэчы „Зоркі”. Удзельнікі (20 асоб) — вучні пачатковых школ і ліцэяў з Бельска-Падляшскага, Чыжоў, Ласінкі, Гайнаўкі, Дубіч-Царкоўных і Беластока — знаёміліся з тэарэтычнымі і практычнымі асновамі пісання інтэрв'ю. Разам з маладымі карэспандэнтамі „Зоркі” працавалі вопытныя і вядомыя журналісты д-р Яўген Мірановіч, д-р Лена Глагоўская, Аляксандр Максімюк, Мікола Ваўранюк ды Юрка Ляшчынскі. Дадатковым атракцыёнам Сустрэч была вандроўка пушчанскімі шляхамі і прэзентацыя слайдаў пра гісторыю і прыроду Белавежскай пушчы (здымкі датычылі польскай і беларускай частак пушчы). Удзельнікі Сустрэч знаёміліся таксама з моладдзю з Белавежы. Мерапрыемства адбылося дзякуючы падтрымцы **Польскага фонду дзяцей і моладзі**. Арганізатары дзякуюць таксама **Войцеху Нядзельскаму** з **Нядлясніцтва ў Белавежы** і гаспадару лесніковай пасады ў Падцэрквах **Васілю Вайцюку**.

**Ганна Кандрацюк**

## Моладзь брала інтэрв'ю

Першым дакладчыкам XV Сустрэч „Зоркі”, які знаёміў моладзь з прынцыпамі правядзення інтэрв'ю быў Яўген Мірановіч. Ён жа ў завяршэнні свайго даклада запрапанаваў практычныя заняткі — слухачы мелі падрыхтаваць пытанні для канкрэтных інтэрв'ю. Дакладчык кожнага ўдзельніка Сустрэч „пасадзіў” у рэдакцыю і „задаў” яму героя для інтэрв'ю. Што атрымалася з гэткай гульні, чытайце побач.

### Інтэрв'ю з генералам вайсковай часці ў Беластоку, праведзенае для вайсковай газеты. Яно накіравана да маладых людзей, якія ў гэтым годзе стануць жаўнерамі

1. З якіх асяроддзяў найчасцей паходзяць маладыя жаўнеры?
2. Што думаеце пра людзей, якія ідуць штудзіраваць толькі таму, каб уцячы ад арміі?
3. Ці лік прызыўнікоў з году ў год пабольшваецца, ці паменшваецца?
4. Аб чым гэта сведчыць?
5. Ці былі ў Вашай часці выпадкі дзедаўшчыны — мучэння „катоў”?
6. Як будзеце вырашаць гэтую праблему?
7. Што Вы маглі б сказаць для маладых людзей, якія ў гэтым годзе стануць жаўнерамі?

**Міхась Сцепанюк**

### Інтэрв'ю з Багуславам Ліндам для газеты, накіраванай да старэйшых дзяцей

1. Скажыце, чаму Вы сталі акцёрам?
2. Што Вы любіце рабіць у вольны час?
3. Якія ролі Вы любіце іграць у фільме?
4. Колькі Вы атрымліваеце лістоў ад сваіх паклоннікаў, ці на ўсе лісты Вы адпісваеце?
5. Што ў Вашай прафесіі найбольш Вам падабаецца?

**Пытанні падрыхтавалі Аліна Сіроцкая, Наталля Бабулевіч**

### Інтэрв'ю з Багуславам Ліндам для жаночага часопіса

1. Неўзабаве зіма. Якія ў Вас планы на гэты час?
2. Я чула, што Вы атрымалі цікавую прапанову да новага фільма?
3. Раскажыце, калі ласка, коратка: пра што гэты фільм?
4. З Вашага адказу вынікае, што здымкі да гэтага фільма пачнуцца зімой?
5. Ці Вы часам не падумалі, каб закончыць сваю кар'еру?
6. Зараз многа слаўных людзей выступае ў рэкламах, ці Вы дасталі такую прапанову?
7. Ці Вы згадзіліся б выступіць у адной з іх?

**Патрыцыя Кос, Кася Рыбак**

### Інтэрв'ю з новым радным горада, для школьнай газеткі рэдагаванай васьмікласнікамі

Вучні восьмага класа на адным з урокаў ведаў пра грамадства правялі дыскусію аб недасканаласці ў кіраванні Радай горада. Дыскусія засяродзілася на праблеме продажу алкагольных напіткаў. Ад імя ўсяго класа хачу Вам, як новаму раднаму, паставіць некалькі пытанняў:

1. Паводле існуючага закону крамы з півам не павінны знаходзіцца ў блізкім суседстве са школай; абавязвае прынцып, што півам можна таргаваць не бліжэй чым трыста метраў ад асветнай установы. Чаму гэтае правіла не датычыць бараў побач нашай школы?
2. Ці на гэта меў уплыў факт, што ўласнікам аднаго з гэтых бараў ёсць блізкі знаёмы аднаго райцы нашага горада?
3. Ці Вы, як новы радны, будзеце звяртацца ва Управу горада ў гэтай справе?

**Падрыхтавала Жанэта Роля**

### Інтэрв'ю з войтам, які пачынае сваю новую кадэнцыю ў нашай гміне — для некалькіх газет

1. Чаму стараецеся на працу якраз у нашай гміне?
2. Прадстаўце, калі ласка, свой погляд на сучасную сітуацыю гміны.
3. Што новага хочаце ўвесці для паляпшэння матэрыяльнага становішча гміны?
4. Што на вашу думку павінна памяняцца ў спосабе кіравання гмінай?

**Пытанні падрыхтавала Ірэна Кулік**

### „Głos Nauczyciela” (numer specjalny)

Неўзабаве ўвойдзе ў сілу новая асветная рэформа. А вось пра што запытаў наш рэдакцыйны калега міністра асветы РП сп. Ганткэ:

1. Спадар міністр, неўзабаве пачне ўкараняцца новая асветная рэформа, праект якой падрыхтаваў ваш папярэднік сп. міністр Янкоўскі. Як Вы яе ацэньваеце?
2. Мо лепш вярнуцца да пасляваеннай сямікласнай сістэмы, якая перартрывала да гэтай пары ў Расіі, Беларусі і Украіне?
3. Ці новая рэформа не пашкодзіць вучням? Ці моладзі будзе цяжка прывыкнуць?
4. Ці сістэма „Матура 2000” не пагражае сёлетнім абітурыентам?

**Інтэрв'ю падрыхтаваў Юрка Буйнюк**

### Інтэрв'ю з настаўніцай беларускай мовы для школьнай газеты

1. Як Вы ацэньваеце цяперашні ўзровень навучання беларускай мовы ў пачатковай школе?
2. Якія адносіны цяперашніх вучняў да беларускай мовы ў нашай школе?
3. Чаму Вы выбралі прафесію настаўніка беларускай мовы?
4. Што Вы думаеце пра праграму навучання беларускай мовы?

**Пытанні падрыхтаваў Тамаш Дзямянюк, ПШ у Чыжах**

## Пушчанская крыжаванка № 47

*(некаторыя словы крыжаванкі знойдзеце ў сённяшняй „Зорцы”)*

- Багуслаў ... — герой інтэрв'ю,
- якое падрыхтавалі ўдзельнікі XV Сустрэч „Зоркі”
- жыве ў лесніковай пасадзе
- пушчанская дарога
- паход
- самы магутны звер Белавежскай пушчы
- пушчанскі драпежнік
- неспадзяванка, прыемнасць

Запоўніце клеткі адпаведнымі словамі, у выніку чаго ўзнікне лозунг. Дашліце яго на працягу трох тыдняў (з наклееным кантрольным талонам) у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 43:** Фіга, ікс, кол, фірма, фартушок, ліра, хада, Мінск, ар. Ліфт, лі, фарс, Ірак, гурт, муха, каша, ода, лекар.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Іаанна Карчэўская** з Пілік, **Міраслава Сідарук** з Сакоў, **Юліта Іванюк** і **Лукаш Трашчотка** з Бельска-Падляшскага.

Талон „Зоркі” № 47 22.11.1998



*1. Удзельнікі XV Сустрэч „Зоркі" ля леснікоўскай пасады ў Падцэрквах.*



*2. Журналісцкія заняткі пачаліся дакладам Яўгена Мірановіча.*



*3. Карэспандэнты „Зоркі" плённа працавалі.*



*4. І маршыравалі пушчанскімі трыбамі.*

# XV Сустрэчы „Зоркі" *ў фотааб'ектыве Ганны Кандрацюк*



*5. Пушчанскі экскурсавод Ева Мароз-Кэчынская расказвае пра асаблівасці пушчы.*



*6. Лена Глагоўская і Юрка Ляшчынскі знаёмілі з інтэрв'ю для прэсы і радыё.*



*7. Мікола Ваўранюк гаварыў пра інтэрв'ю для тэлебачання і прэсы.*



*8. Вогнішча спрыяла новым сяброўствам.*

# Аптымістычная сталасць барда



*Алесь Камоцкі.*

Страх, як люблю Алеся Камоцкага!

За тое, што ведае, *хто ў небе збірае дажджы* і ўмее *між сонцам і дажджом адтуліну шукаць*, за тое, што хвалюе яго *дробны след сяброўкі* на першым снезе і вобраз дзяўча, якое *ў чоўне мыла валасы*, і якому *косак не хапала трошкі, каб дзве лілеі заплятаць*. За *дзве душы*, якія *без сустрэч доўга-доўга жылі* і за той няўлоўны *дробны прывід майго кахання, што здушыла разважлівa ты.*

За наша ўсяночнае знаёмства на дзесятым паверху ўскраіннай менскай вуліцы Ілімскай і за раманс *Сані шпарка бягуць, ноч з марозікам* на Радзымінскай вуліцы ў Беластоку. За тое, што ён не крывадушнічае, ні ў жыцці, ні ў творчасці. За шчырасць, калі спявае:

*Я пад асеньняе цяпло падстаўлю*
*галаву і сьціхну*
*Ня маю грошы, як на ліха,*
*а то віно цякло б, цякло.*

І за тое, што яго песні спадарожнічаюць мне са студэнцкіх часоў. У найбольш светлыя моманты.

Папраўдзе, дзіўны чалавек гэты Алесь Камоцкі. „Найбольш лірычны бард Беларусі”, як пра яго гавораць тыя, хто любіць спрошчваць свет з дапамогай штампаў (*vide*: „антылукашэнкаўская рок-опера”, „харызматычны лідэр...” і г.д. і т.п.), напісаў і праспяваў нямала песень, але зусім не дбае пра месца ў салонах славы. Піша ён не аглядаючыся на моды, не стараючыся насілу спадабацца. Спявае ў невялікіх залах, у камерным тэатры, у кампаніі сяброў. Не ўдзельнічае ў шумных *парадах нязьдзейсненых надзей.*

Недаравальна адно — чалавек, які цудоўна спявае ўжо гадоў пятнаццаць, які адкрыў столькі вачэй на чыстую прыгажосць беларускага слова, які стаў (паводле іншага штампа) „легендай беларускай бардаўскай песні” і па ўсёй Беларусі мае ціхіх і яўных паслядоўнікаў, не можа пахваліцца сваёй дыскаграфіяй. Памятаю, не было ў нас апошнімі гадамі сустрэчы, каб я не пытаў яго пра касету, альбом. Алесь усё над нечым працаваў, абяцаў нешта вось-вось скончыць, нешта перарабіць, а тым часам давадзілася слухаць аматарскія запісы канцэртаў, спектакляў, неафіцыйных сустрэч.

Калі на сёлетняй *Бардаўскай восені* падарыў мне Алесь касету „Зорка спагады”[*] з песнямі на словы Рыгора Барадуліна, цяжка было паверыць, што рэальная яна. Мала таго, у другой руцэ трымаў я яго паэтычны зборнік „Спроба ісці па расе”[**]. А калі я дачытаўся, што сёлета выйшла яшчэ адна касета Камоцкага, на словы Уладзіміра Жылкі, але тут жа была раскуплена, дык аж прысеў ад здзіўлення і радасці. Няўжо пераломны год?

*Восень... Нахаба лезе за каўнер*
*паветрам зімным,*
*Празрыстым холадам мяне*
*вось-вось абдыме.*

Прыемна чытаць такія радкі ў цёплай кватэры, калі дрыжыкі па спіне праходзяць толькі ад уяўлення. І слухаць старамодныя рамансы, у якіх да каханай звяртаюцца на „вы”.

І як тут не любіць Алеся Камоцкага? Ужо б хаця за гэты падарунак. А яшчэ за тое, як ён умее прыгожа сталець і не лашчыцца пад густы рознай масці галадранцаў:

*Складанасьці абставінаў жыцьця*
*Неспадзявана ўжо не засмучаюць,*
*Ўжо болей нечакана*
*ня зьдзіўляюць...*
*Жывём не прадчуваньнем*
*адкрыцьця,*
*А намаганьнем выспацца начамі.*

За тое, што ён умее апісаць страшную самоту, у час якой стукае ў дзверы белы конь і за тое, што натхняе своеасаблівым аптымізмам:

*А з маёй лаўкі нічога ня бачна,*
*А ўсё роўна я жыцьцю ўдзячны.*

Аднак і з лаўкі відно, што *і дзяржава ня ў гуморы зраньня,/і начальнікі ня спалі ўсю ноч.* І слабая схованка, гэтая лаўка. Але ж, на двары лістапад, а ў лістападзе:

*Ліст хоча падаць у лесе і ў садзе.*
*Першы мароз, пэўне, заўтра кране.*
*У лістападзе, пры кожнай уладзе*
*Хочацца выпіць і людзям, і мне.*

Страх, як люблю Алеся Камоцкага! На здароўе!

**Мікола Ваўранюк**
*Фота Ганны* Кандрацюк

[*]*Зорка спагады*, Песні Алеся Камоцкага на вершы Рыгора Барадуліна

[**]Алесь Камоцкі, *Спроба ісці па расе*, Менск 1997.

# Зноў чуеш словы

Пад такім загалоўкам на пачатку гэтага месяца выйшаў друкам паэтычны томік, які з'яўляецца плёнам III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. У кніжку ўключаны творы 33 аўтараў, падзеленых на чатыры ўзроставыя групы: вучні, моладзь, дарослыя і народныя творцы. Мяркуючы па аб'ёме ўсіх трох томікаў, якія былі дагэтуль выдадзены, можна сцвердзіць, што конкурс, задуманы Беларускім саюзам у Польшчы, развіваецца. Ці можна тое ж сказаць на аснове самых твораў?

Гадамі замацаваўся ў нас прынцып, паводле якога навучанне беларускай мовы можна змясціць у словах: беларуская мова — гэта наша родная мова, нельга яе забыць. І вось, гэты націск на „незабыванне” ў шмат якіх выпадках даводзіць да адваротнага рэзультату — упадку здольнасці свабоднага чытання кірыліцы ды фармулёўкі ў ёй думак. Вучань, адмежаваны ад магчымасці вывучаць веды па гісторыі, геаграфіі, літаратуры ці нават музыцы на беларускай мове, страчвае пачуццё жыццёвай патрэбнасці гэтай мовы і цікавасць да яе. Бо якое ж можа мець для яго значэнне тая беларуская мова, калі ўся цікаўнасць свету дзесяці- ці шаснаццацігодка здзяйсняецца ў польскай мове? Якое практычнае значэнне можа мець беларуская мова, калі ў вышэйшую навучальную ўстанову Беларусі мабыць лягчэй паступіць з Сямятыч, чымсьці з беларускага ліцэя? Спадзяванне, што рэформа асветы рэзка і глабальна адменіць педагагічную свядомасць, што школа замест нарматыўнай ураўнілаўкі пачне падбухторваць індывідуальнасць вучня — марнае. Калі нешта такое і здарыцца, дык не ў гэтым пакаленні.

Але, але. Неяк дагэтуль бывае яшчэ тое „але”, якое і дае надзею, што наша мова („якой нельга ніколі забыць”) жыве. Вялікую ролю адыгрываюць тут усякія няўрадавыя ініцыятывы. Пакуль школа будзе дазваляць вучням прымаць удзел у такіх мерапрыемствах як, хаця б, конкурс беларускай паэзіі і прозы ці Сустрэчы „Зоркі” — вучні змогуць у большай ступені пераканацца, што беларуская мова можа мець і практычнае значэнне, і некаторую жыццёвую каштоўнасць.

Што, для прыкладу, адмяніў у свядомасці моладзі літаратурны конкурс Беларускага саюза? За яго справай сталася істотная рэч — экзальтаваная фраза „беларуская мова — гэта наша родная...” напоўнілася практычным зместам. Маладыя аўтары перасталі напаказ любавацца сваёй любоўю да беларускай мовы, а пачалі шчыра выказваць у ёй свае маладыя думкі. Некаторыя дадаткова сталі даследаваць гісторыю свайго наваколля ды пісаць на беларускай мове знакамітыя эсэ на гэтую тэму. Яшчэ іншыя па непрымушанай цікавасці едуць да сваіх бабуль на вёску і даследуюць старыя абрады і песні — не таму, што так сказаў настаўнік, а таму, што ім гэта звычайна цікава. Ці дайшла ўжо да ўдзельнікаў конкурсу свядомасць, што ў нашай канкрэтнай беластоцкай абстаноўцы чалавек з беларускімі каранямі можа істотныя думкі выказваць толькі па-беларуску — гаварыць рана. Несумненнае адно — усе аўтары адзначаюцца вялікай асабістай адвагай. Не па той аднак прычыне, што пішуць яны па-беларуску, а па той, што свае думкі выносяць публіцы на суд. Ці жыццёвыя сцежкі завядуць якога-небудзь аўтара са зборніка „Зноў чуеш словы” ў г.зв. спелую літаратуру — вядома ж, час паказа. Калі б так сталася — адбылася б цудоўная рэч. За апошнія дэкады не было ў нас яркага дэбюту. Трэба яшчэ сцвердзіць, што і не ствараліся ўмовы, якія дэбютам такім паспрыялі б.

**Аляксандр Максімюк**

*Зноў чуеш словы. Плён III Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы*, Беласток 1998, сс. 132.

# Палессе

6 лістапада ў беластоцкай Ратушы была адкрыта фотавыстаўка „Палессе, Палессе”, якую наладзілі Дзяржаўны музей у Беластоку і Кафедра беларускай культуры мясцовага Універсітэта. Паказаныя на выставе здымкі былі зроблены Юзэфам Абрэмбскім у 1934-37 гг. і студэнтамі этналогіі і сацыялогіі ў 1995-96 гг.

Юзэф Абрэмбскі гэта родны брат Антаніны Абрэмбскай-Яблонскай, якая шмат гадоў кіравала Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У згаданых 1934-37 гадах праводзіў ён этнасацыялагічныя даследаванні сярод палешукоў і адсюль пралёг яго шлях у вялікую навуку. Раней, у 1927-28 гг. праводзіў ён такія ж даследаванні ў Македоніі, а пазней, у 1947-48 гг. на Ямайцы; у 1948—59 працаваў экспертам у Дэпартаменце мандатных тэрыторый ААН. Юзэф Абрэмбскі пакінуў Польшчу ў 1946 годзе і больш ужо сюды не вярнуўся, хаця прапанавалі яму кафедру этналогіі ў Варшаўскім універсітэце, бо, як пісаў у 1947 годзе: *Nie mam żadnych złudzeń co do perspektyw rozwojowych socjologii polskiej w obecnej sytuacji. (...) Wybrałem etnologię jako przedmiot pozornie najbardziej oderwany. Niestety, pomyliłem się. Lenin i Stalin też byli etnologami.*

Пра Палессе Юзэф Абрэмбскі пісаў: *... Obszar ludnościowy który można określić jako beznarodowy czy przednarodowy. (...) Ludzie Polesia — w swej przeważającej masie — nie są ani Ukraińcami, ani Białorusinami. Przestają być Poleszukami. Stają się ludem bez ojczyzny.* Ды і да нашага часу мала змянілася. Даследчыкам Варшаўскага універсітэта тры гады таму адказвалі: *Палякі мы ўсе, бо пры Польшчы жылі, у школу хадзілі* ці *А ў нас мы беларусы* або *А я не знаю. Як вам сказаць? Я сама не знаю. Або палешукі, або... Я не знаю!* Надта ж падобнае на наша *тутэйшыя*. Ужо шэсцьдзесят гадоў таму Юзэф Абрэмбскі заўважыў у палешукоў культ „панскіх” вартасцей, прагу выхаду з уласнага асяроддзя дзеля грамадскага павышэння, асіміляцыю з сумежнымі народамі.

Не ўсе вынікі даследаванняў Юзэфа Абрэмбскага былі апублікаваны; захаваліся так рукапісы, як і негатывы фатаграфічных плёнак, якія знаходзяцца ў фондах Масачусецкага універсітэта ў ЗША. Адтуль і здымкі Абрэмбскага, паказаныя на выставе. Яны вельмі „свае”, асабліва ж старэйшаму чалавеку, хаця ёсць і адметнасці ад нашага. Зафіксавана тут, напрыклад, апрацоўка ільну: „церніцы”, прадзенне верацяном, бяленне... І жанчыны захутаныя ў хусткі, так як і нашы бабулькі, або ідучыя ў царкву басаножа з туфлямі ў руцэ — каб не пабрудзіліся. І многае іншае. Як бы я ні пісаў, і так таго ўсяго, што зафіксаваў Юзэф Абрэмбскі на фотаплёнцы, не апішу. А гаворачы па-другому — гэтую выстаўку варта бачыць. Працаваць яна будзе да канца снежня.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Галаўныя ўборы падляшскіх прыгажунь

Жаночы народны строй падзяляецца на тры ярусы — „тры часткі свету". Гэта акцэнтуецца кроем адзення, кампазіцыяй. Тры арнаментальныя ярусы размяшчаліся ў строга сімвалічнай паслядоўнасці: ніжні ярус „зямля" — спадніца і фартух, сярэдні „наземны" — галіны дрэў і лісце як ажурныя ўзоры сарочак, гарсэтаў і верхні „паветра" — галаўны ўбор.

Самай каларытнай і маляўнічай часткай беларускай жаночай вопраткі з'яўлялася „завершанасць галавы", якая прыдавала ўсяму народнаму касцюму святочнасці і дастойнасці. Маем на ўвазе галаўныя ўборы, якія падкрэслівалі рысы твару жанчыны і ўпрыгожвалі яе. Таму ўжо з даўніх часоў мастацкае накрыццё галавы жанчыны і дзяўчыны мела вялікае значэнне. Кожны галаўны ўбор сваёй формай і спосабам нашэння строга адпавядаў прынятаму ў якойсьці мясцовасці звычаю. Але матэрыял, з якога рабілі галаўны ўбор, яго ўпрыгожванні залежалі ад густу і ступені заможнасці жанчыны, а таксама ад яе фантазіі.

Разам з тым накрыццё галавы, як ні адна іншая частка жаночай вопраткі, заўсёды строга адпавядала ўзросту жанчыны і сямейнаму становішчу: „Як вянок быў прыкметай дзявоцтва і мог насіцца толькі дзяўчынай, так і чапец быў прыкметай замужжа" (J. Smoliński, *Kaptur i namiotka na Białorusi Litewskiej*, „Ziemia", 1911, nr 9, s. 136).

Многія даследчыкі адзначалі, што дзяўчатам на тэрыторыі Падляшша была ўласціва ўсходнеславянская прычоска, пры якой валасы былі зачэсаны гладка з прамым праборам, а на патыліцы запляталі адну або дзве касы, якія звісалі ўздоўж спіны або абкручаны вакол галавы імітавалі вянок. Сустракалася часам, што дзяўчаты касу заплялі не да канца і пакідалі расплеценай.

Вянок з'яўляўся традыцыйным галаўным уборам дзяўчат. Аснова вянка рабілася з цвёрдага лубу, часта з палоскі кардону шырынёю 10-15 см, абшытай палатном. Паверх палатна з вонкавага боку вянок быў абшыты яркай тканінай, пераважна фабрычнага вырабу. Вясельны вянок у адрозненні ад штодзённага шчодра ўпрыгожвалі жывымі або штучнымі кветкамі, пер'ем, а ззаду да ніжняга краю вянка начаплялі рознакаляровыя стужкі. Вянкі на цвёрдай аснове ўжываліся як вясельны галаўны ўбор яшчэ ў канцы XIX ст. Побач вясельных вянкоў са штучных кветак на Брэстчыне бытавалі вянкі з жывой зялені руты ці барвенку з рознакаляровымі стужкамі або вэлюмам. Неабходна аднак адзначыць, што ні адзін вясельны вянок не паўтараў іншыя. Кожная жанчына захоўвала традыцыйную для дадзенай мясцовасці форму вянка, але рабіла яго з даступных ёй матэрыялаў, аздабляючы са сваім густам і мастацкімі здольнасцямі. Трэба дадаць, што ў некаторых вёсках было прынята адзначыць у вясельных уборах сіроцтва нявесты. У Ваўкавыскім павеце Гродзенскай вобласці нявесце, калі ў яе не было аднаго з бацькоў, пад вянец заплялі касу толькі да палавіны. Паводле О. Кольберга вянок сваxі „старасціны" ў Холмскім павеце плялі з барвенку, белага пер'я. Вышэй замацоўвалі чатыры прамавугольнікі з каляровай ніткі (баваўнянай), часам з залатым матэрыялам. Да ўсёй канструкцыі прышпільвалі восем пучкоў белага пуху, абкручаных чырвонымі стужкамі і фрагментамі саломы.

У якасці вясельнага галаўнога ўбору выкарыстоўвалі і хустку. Складзеную па дыяганалі, павязвалі пад падбародкам або ззаду галавы такім чынам, што канцы перакрыжоўвалі на патыліцы і вязалі ў вузел пад заднім касячком хусткі (Падляшша), часам вузел размяшчаўся над ілбом. Каб белая хустка нявесты прыняла святочна-вясельны тып, часта яе ўпрыгожвалі кветкамі і зеленню, а да валасоў прымацоўваліся рознакаляровыя стужкі, якія звісалі з-пад хусткі ўздоўж спіны. У Слонімскім павеце бралі шэсць рознакаляровых стужак, складалі іх па дзве, скручвалі і прышывалі ў тры паласы па налобнай частцы. З. Глогер піша, што маладая нявеста на Падляшшы мела непаўторны галаўны ўбор, на які складаліся такія часткі як: „завійка" — ільняны плат названы ручніком, складзены ў тры палоскі, павязаны на галаве, дзе арнаментаваныя канцы звісалі ўздоўж спіны. Налобная частка „завійкі" ўпрыгожвалася карбованай, каляровай, чырвонай, шырокай стужкай. Па баках вянка або завійкі затыкалі пучочкі руты. На Палессі маладой пасля вянчання ў царкве надзявалі намітку і яна насіла яе цэлы дзень. Потым у хаце жаніха свёкар здымаў намітку і сяброўкі пачыналі расчэсваць валасы, якія закрунуўшы на тканку прыкрывалі чапцом і хусткай.

Тканка — „кімбалка", „кібалка", „бічайка", „лямец" — гэта розныя назвы тонкага абручыка з ільняной кудзелі, лісця явара, некалькіх тонкіх гнуткіх галінак дрэва, абшытых палатном. Рабіўся ён строга па аб'ёму галавы і ззаду завязваўся матузком. Яны часцей за ўсё з'яўляліся асновай, на якую накладваўся другі галаўны ўбор (чапец або намітка; хустка).

Намітка з'яўлялася самым старадаўнім тыпам жаночага галаўнога ўбору. Гэта доўгае палотнішча з тонкай тканіны, якое беларусы на Падляшшы называлі „платам" і „наметкай". Насілі яе замужнія жанчыны. Канцы і адзін край па ўсёй даўжыні аздабляўся вышыўкай наборам і крыжыкам. У адных выпадках намітка афармлялася вельмі сціпла; у надбужанскім галаўным уборы арнамент кампанаваўся ў паясах толькі па канцах, у другіх — аздаблялася налобная частка, краі. Спосаб і манера завівання наміткі, асаблівыя ў кожнай мясцовасці, дазвалялі гаварыць аб этнічных рэгіёнах і іх асаблівасцях у адносінах да наметкі. Павітая вузкай дыядэмкай „кібалкай" на ілбе, утварала прыгожыя зломы драпіровак вакол твару, мяккія нібы хвалі на спіне. Стварала выразную дынамічнасць постаці жанчыны і спараджала вобраз, які нагадваў скульптуру готыкі. Жанчына праз форму і пластыку наміткі хацела стварыць уражанне больш выцягнутага і гібкага грацыёзнага сілуэта. Эстэтычная змястоўнасць, асаблівая маляўнічасць і тонкі густ афармлення наміткі завяршаецца ў пучку белага пер'я, прымацаванага пасярэдзіне над ілбом. „Завіванне" наміткі было даволі складаным і патрабавала значнага часу, пэўнага ўмення. Таму на чапец пад намітку падкладалі шырокі цвёрды абруч — „каробачку". Гэта давала магчымасць надзяваць яе як шапку, не трацячы часу на павязванне.

Апрача наміткі абавязковым элементам складанага жаночага галаўнога ўбору канца XIX — пачатку XX ст. быў чапец, характэрны Падляшшу (Уладава). Чапец меў выгляд неглыбокай круглай шапачкі, якая, не закрываючы вушэй, шчыльна аблягала галаву. У залежнасці ад густу жанчыны, донца было круглае або авальнае, якое спераду і ззаду звычайна прызбарлівалася каля аколыша. Святочныя чапцы шылі з яркіх, тонкіх фабрычных тканін: паркалю, шоўку, атласу, тонкага сукна і нават з кашміру. Самым папулярным колерам былі розныя адценні чырвонага і бурачковага. Налобная частка такіх чапцоў упрыгожвалася самым разнастайным чынам: стужкі яркіх колераў, карункі або каляровыя тасьмы з той матэрыі што і чапец, вышыўка ніткамі і пацеркамі, шамэрунак. Хачу адзначыць, што вышываны дэкор зрэдку прысутнічаў на чапцах.

У пачатку XX ст. многія маладыя жанчыны ўжо не насілі чапцоў і тканак, а шчыльна завязвалі вакол галавы невялікую хустку, паверх якой павязвалі і другую больш дэкаратыўную, з фрэнзлямі. Павязанне хустак, таксама як павязанне намітак, было вельмі разнастайным. Вузлом пад падбародкам — найбольш позні спосаб; у канцы XX ст. ён лічыўся дзявоцкім. У ваколіцах Тарэспаля жанчыны чырвоную хустку складалі ўздоўж некалькі разоў і абвязвалі галаву сашпіляючы брошай, дзе канцы з фрэнзлікамі звісалі з правага боку твару. Паўсядзённа дзяўчаты ў Бельскім павеце хусткі вязалі пад барадой або ззаду галавы, толькі ў свята надзявалі „чуб" — „чулко", значыць, павязкі з цвёрдай паперы абцягнутай чырвоным палатном. На паверхнасці чуба прымацоўвалі кругі, аздобленыя чырвонымі, зялёнымі, жоўтымі стужкамі ў форме зоркі. У сяродак зоркі замацоўвалі брошу з каляровым шклом. Верх чуба дэкаравалі штучнымі кветкамі. Адметнай жывапіснай мовай чубаў была сакавітасць фарб бурачковага, малінавага, фіялетава-сіняга, якія ўскладваліся ў пластычна выразную палітру палоскі шляхоў, характэрных для гэтага тыпу галаўнога ўбору. Арнамент з яркіх кантрастных палосак утвараў зігзагі, найбольш пашыраны спосаб аздаблення чубаў, каптурчыкаў, надаваў паверхні галаўнога ўбору дадатковы эфект складанасці, каляровай і фактурнай разнастайнасці, заўважнай рукатворнасці падкрэсленай кантрастнай аплікацыяй або далікатным шамэрункам.

Цікава часам заглянуць у вясковую старую хату, а там... Можа яшчэ і сёння знойдзецца маляваны куфар, на дне якога ляжыць сьвяточны вянок, каляровая хустка з фрэнзлямі ў васілёчкі і ружы, намітка — кужэльнае палатно са сціплым архаічна-геаметрычным узорам ці каптурык сакавітых колераў, якія насілі бабулі...

**Івона Марціновіч**

# У хворым лесе хворы дух

Калі выберацеся ў лес, прыгляньцеся, што з ім зрабіла цывілізацыя. У суседстве прамысловых цэнтраў гінуць елкі і сосны — дрэвы найбольш уражлівыя на забруджанне паветра.

Серныя вокісы, якія выпарваюцца з фабрычных комінаў, хатніх вугальных печак і вокісы азоту, што дастаюцца з выхлапных трубаў машын спалучаюцца ў хмарах з парай і ствараюць кіслоты: серную і азатавую. Так узнікаюць кіслотныя імглы, дажджы і снягі. Яны знішчаюць ахоўны слой воску, што пакрывае іголкі, псуюць клетачныя абалонкі і дыхальныя шпаркі. Да таго спрычыняюцца да акісленне глебы, якая з натуры ў хваёвым лесе ёсць кіслая. Празмерная колькасць кіслот у глебе мае ўплыў на гэта, што з мінералаў, якія ўваходзяць у яе састаў, дабываюцца атрутныя для жывых арганізмаў іоны алюмінію і кадму.

**Дзе пахне жывіцай**

Уваходзячы ў хваёвы лес, звярні ўвагу на запах. Калі пачуеш моцны мілы пах жывіцы, а ў месцах пашкоджанняў кары ўбачыш буйныя кроплі гэтага араматнага рэчыва, — цешся. Гэта значыць, што лес у змозе абараніцца ад шкоднікаў. Здаровае дрэва затапляе насякомых (напрыклад, караедаў) у жывіцы, не дапускаючы іх размнажэння. Гэты ахоўны механізм дзейнічае ад дзесяткаў мільёнаў гадоў, пра што сведчаць насякомыя навекі застылыя ў бурштыне.

Прыгляньcя іголкам сасны ці елкі. Цёмныя плямкі на паверхні сведчаць пра забойчы ўплыў забруджання паветра або недахоп пажыўных субстанцый.

**Аблыселыя дрэвы**

Калі ў глебе бракуе кальцыту, а небяспечна ўзрасла канцэнтрацыя іонаў алюмінію, даходзіць да пашкоджання каранёвай сістэмы раслін. Дрэвы не ў змозе браць дастатковую колькасць мінеральных солей з надта акісленай глебы. Рост дрэваў замаруджваецца, яны лёгка пераломваюцца. Кароны дрэў рэдкія, мала на іх іглiцы. Верхнія галіны елак часам зусім агаленыя з іголак, бакавыя парасткі абвіслыя. Дрэва выпускае заступныя парасткі.

**Нядзіўныя дзівы**

Хваёвыя дрэвы часцей чым ліставыя рэагуюць на забруджанне паветра сернымі і азотавымі вокісамі ды кіслотныя дажджы таму, што падвяргаюцца іх шкоднаму ўплыву ўвесь год. Ліставыя дрэвы, якія скідаюць лісце восенню, у лепшым становішчы. Сярод іх да найболш уражлівых належыць бук. Тады ў яго можна прыкмеціць заўчаснае ападанне лісця, а таксама гузы і трэшчыны на кары. Верхнія галінкі бука маюць тады выгляд бічоў з кароткімі, дэгенераванымі бакавымі парасткамі. Заўчаснае зжаўканне дрэў у гарадах і розныя батанічныя дзівы, як, напрыклад, паўторнае іх квітненне — вынік забруджання асяроддзя.

**Зямля без памочнікаў**

Празмернае акісленне глебы не застаецца без уплыву на жыццё жывучых у ёй арганізмаў. Гінуць найбольшыя саюзнікі земляроба і лесніка: бактэрыі якія раскладаюць на простыя мінеральныя спалучэнні арганічную матэрыю (напрыклад у іглiцы ці ў гнаі), якую могуць прысвоіць расліны. Ахвярамі кіслотных дажджоў ёсць, напрыклад, дажджавыя чарвякі, якія дбайна разрыхляюць і ўгнойваюць глебу.

Назіранне за вынікамі забруджвання паветра, можа быць, паўплывае на некаторых уласнікаў машын настолькі, што, замест ехаць у лес па грыбы на машыне, заменяць яе веласіпедам. Расце новае пакаленне, да сэрца якога, здаецца, даходзяць заклікі эколагаў. Разумее яно, што здаровы дух чалавецтва не можа развівацца на хворай зямлі.

**Лукаш Баравіцкі**

# Час мяняецца



*Орля пасля пажару ў 1938 г.*

**Успамінае 82-гадовая жыхарка Орлі Зінаіда НЯДЗЕЛЬСКАЯ.**

**Бежанскія нягоды**

Мае бацькі ў час бежанства апынуліся ў Маскве ў сям'і фельдфебеля і там у 1916 годзе на свет прыйшла я — Зінаіда Карач. У Маскве панаваў тады голад і мой бацька, які быў дзелавітым чалавекам, рашыўся ехаць на Украіну, дзе матэрыяльнае становішча было намнога лепшае, паколькі саветы не паспелі там яшчэ ўсяго абабраць і разбурыць. На Украіне ўспыхнула эпідэмія тыфу. Мы тады жылі на вёсцы. Бацька захварэў і памёр ад гэтай страшэннай хваробы. Мне было ўсяго паўтара годзіка. Бацькава сястра, якая была манашкай, стала намаўляць маю маці Аляксандру вяртацца з дзяцьмі на радзіму. У 1921 годзе маці вярнулася з пецярыма малалеткамі (Андрэем, Лідай, Нінай, Оляй і мною) у Орлю. Двое дзяцей памерла ў Расіі, а найстарэйшы брат Аляксандр застаўся там.

Мужава сям'я таксама была ў бежанстве, а мой муж, Сяргей, нарадзіўся ў Даршаве каля Смаленска. Вярнуліся яны ў 1921 годзе, калі Сяргею было чатыры гады.

**На бацькаўшчыне**

Калі мы вярнуліся ў Орлю, было нам вельмі-вельмі цяжка. У нашым доме жылі яўрэі, якія моцна яго запусцілі (выбітыя шыбы, знішчаная падлога). Прыехалі восенню, перад Іванам. Не мелі мы сваёй бульбы, пагражаў нам голад. Да вясны жылі мы разам з яўрэйскімі кватарантамі. Мне тады было 5 гадоў і добра помню, што калі яны елі вараную бульбу, якую мачалі ў расол з-пад селядцоў, то я, седзячы на печы, толькі слінку глытала. Часам частавалі мяне адной-дзвюма бульбінамі. Маці хадзіла на заробак да яўрэя Авеля. За размол у жорнах аднаго пуда жыта атрымоўвала фунт хлеба.

Вясною ўлады далі нам з амерыканскай гуманітарнай дапамогі па паўметра бульбы і збожжа. Старэйшы брат Андрэй, якому было семнаццаць гадоў, стаў гаспадарыць. Прадалі мы пляц і купілі ладнага каня. У нашай клуні жыў яўрэй Давід, які ў шабаш хадзіў з ім у поле і падказваў яму, як трэба працаваць канём. Пасадзілі мы вясной бульбу (кроілі яе так, каб быў толькі адзін парастак), а восенню сабралі неблагі плён. Голад ужо нам не быў страшны.

Мэблю ў бежанства расцягнулі яўрэі. Засталася толькі табурэтка, на якой мы елі. Маці потым хадзіла па яўрэйскіх дамах і сваю мэблю забірала.

**Яўрэйскі каларыт**

Па панядзелках на арлянскім рынку адбываліся кірмашы. Прыязджалі сюды ганчары з Кляшчэль з гаршкамі, гладункамі, міскамі. Іншыя прывозілі дрэва. Большасць жыхароў мястэчка складалі яўрэі — было іх каля трох тысяч. Хрысціянскіх хат было толькі сто. Нашы дзеці часам дакучалі яўрэям, пускалі ім голуба ў бажніцу.

Яўрэі былі добрымі людзьмі. Памагалі ў бядзе. У іх заўсёды можна было пазычыць грошы. Калі я 10 студзеня 1936 года выходзіла замуж, то ў нас дома нічога не было загадзя падрыхтаванага, паколькі былі ў мяне старэйшыя сёстры і мама не спадзявалася, што я так хутка выйду з дому. Пайшла тады маці да яўрэйкі Добы, якая трымала краму з тканінамі пры рыначку ад Нарваўскай вуліцы (сёння тут парк пры Кляшчэлеўскай вуліцы) і дастала ў крэдыт капы, палатно, ручнікі, прасцірадла і іншае. Восенню мама прадала гусей і вярнула доўг. А на вуліцы Млыновай жыла ўдава Ганна, яўрэйка. Калі мне зімой патрэбны былі валёнкі і галёшы, а якраз не было грошай, тады яна дала мне іх і панчохі ў крэдыт, а пазней муж зарабіў гоoperaшы і заплаціў.

**Вялікі пажар**

18 мая 1938 года, акурат у час саджання бульбы, перад Іванам, загарэлася Орля. Пажар успыхнуў у абед у кватэры яўрэйкі (сёння гэта рог вуліц Вузкай і Кляшчэлеўскай), якая мела сваю алейню. Якраз таргавала яна на вуліцы перад домам яйкамі (па 6 грошаў за штуку), а пакінуты ў каструлі на пліце алей выкіпеў і загарэўся. Мястэчка было шчыльна забудавана, а крытыя страхой драўляныя дамы стаялі амаль упрытык. Не было ніякага ратунку. Адразу падняўся вецер, які маментальна пераносіў агонь на значныя адлегласці ў напрамку могільніка. Здавалася, канец свету надышоў! Людзі ў спешцы выносілі дабытак з палаючых хат на аддаленую Пакатуўшчыну — поле над рэчкай Арлянкай, а несумленныя жулікі напросту кралі іх і заносілі, напрыклад, у Кашалі. Агонь быў такі вялікі, што камяні ў бруку палопалі, а па агародах паліліся капіцы гною. За некалькі гадзін згарэла 540 будынкаў. Пажарнікі, што прыехалі з Бельска, выратавалі частку вуліцы Бельскай і не дапусцілі агню да будынкаў гміны і школы.

Падчас пажару згарэлі архітэктурныя помнікі — дзве драўляныя бажніцы, а таксама дах і інтэр'ер вялікай сінагогі. Ацалела галоўным чынам тая частка Орлі, дзе жылі хрысціяне — ад царквы ў напрамку Рудутаў. Непашкоджанымі асталіся яўрэйскія крамы ў тым месцы, дзе знаходзіцца цяперашні парк адпачынку.

**Адбудова з папялішчаў**

Тыдзень пасля пажару пагарэльцы атрымалі ад улад дапамогу ў выглядзе будаўнічых матэрыялаў. Неўзабаве прыехаў інжынер Вільгельм з Варшавы з памочнікамі і сталі вызначаць пляцы пад новую забудову. Жылі яны і сталаваліся ў маёй сястры Лідзіі Куптэль (яе муж быў фельчарам медыцыны).

Перад пажарам яўрэі жылі ў цеснай забудове — на адным панадворку стаяла нават па некалькі дамоў. Пасля пажару кожны хацеў пабудавацца ад фронту, значыць, пры самой вуліцы. Была я сведкай такой вось размовы яўрэя з землямерам: „Пан інжынер, я — шавец, а мой жонка — кравец. Нам трэба фронт". Тады праводзілася таксама камасацыя грунтаў і былі вызначаны новыя вуліцы, у тым ліку Новая шаша (цяпер вул. Свярчэўскага). Камасацыю на калёніі Антанова, што ля самой Орлі, праводзіў інжынер Лятавец.

Орля адбудавалася вельмі хутка, за адзін год. Сённяшняя прасторавая забудова значна розніцца ад гэтай з пачаткаў нашага стагоддзя.

**Сад**

Часта ўспамінаецца мне сад. Цяпер у кожнага гаспадара ёсць свой садок або прынамсі фруктовае дрэўца. Пры санацыі такога не было. У Орлі сад мелі яўрэі Вайштын і Пажажынскі (потым стаў ён уласнасцю Станіслава Пішчатоўскага). Гэты сад пільнавала старая яўрэйка, а мы, дзецюкі, уваходзілі цераз дзірку ў плоце і падбіралі яблыкі. Было нам і страшна, і весела, а рабілі мы гэта з-за беднасці. Сёння маладым гэта здаецца нечым незразумелым, выдумкай. Так, час мяняецца, час мяняецца...

**Міхал Мінцэвіч**

*Рэпрадукцыя аўтара*

# Нядобрыя людзі

**Пра прымусовую працу ва Усходняй Прусіі расказвае 72-гадовая Вольга Жукавіцкая з Гарадзіска Нарваўскай гміны.**

Жыла я ў Ласінцы. У 1943 годзе немцы загадалі прычапіць на дзвярах таблічкі са спіскамі ўсіх жыхароў дома. На прымусовую працу назначылі мяне солтыс і немцы. Не мінуў і тыдзень ад таго назначэння, як выклікалі нас у Нарву на пункт. Мяне бацька завёз, а іншыя бацькі праводзілі сваіх сямейнікаў ідучы пяшком. З Нарвы павезлі нас фурамі адразу ў Бельск. Там пераначавалі ноч і — на поезд у вагоны-скрыні, у Прусію. Завезлі нас у крэйс Ангерсбург (сёння Венгажэва), а адтуль мяне пан брычкаю забраў. Маёнтак ён меў, як і большасць немцаў, велікаваты — дзесяць дойных кароў і коні. Былі там ужо два палякі, якія прывучалі мяне тых кароў даіць. Ну і падказвалі ўсё, бо я ж — *ni mowy, ni głowy*. Тыя палякі былі хіба палоннымі салдатамі, бо іх нанач замыкалі.

Немцы дрэнна адносіліся да нас, асабліва не любілі палякаў. Ка мне адносіліся крыху лепей, бо гаварылі *Weissruss egal Deutsch* — беларус раўня немцу. Аднак каб з немцамі есці — барані Божа! Ела разам з палякамі. Гаспадыня сама варыла, але занадта не карміла: на абед каша і па кусочку мяса, а ў нядзелю яшчэ і па кусочку пірага. Піць давала чорную каву без цукру; мы малако падпівалі, калі даілі. Вопратку прысылалі мне з дому, бо немцы далі толькі драўляныя *клёмпы*. Пасля вячэры да поўначы мяшкі трэба было латаць; гаспадары наглядалі ці робім. Дзеці былі лепшыя, яны насміхаліся толькі з мовы.

Калі набліжаўся фронт, забралі нас пад Кёнігсберг акопы супраць танкаў капаць. Капалі ноччу, бо ўдзень рускія бамбілі і тады мы ў вялікіх *шопах* сядзелі. Мужчыны капалі, а мы адвозілі зямлю далей, рабілі насыпы. Галодныя былі, а калі рускія збамбілі, дык і есці не было чаго. Спачатку елі бручку і мо па дзесяць дэкаў хлеба, а пасля то і нічога не было. Аднойчы я з сяброўкаю ракам, каб ніхто не бачыў, папаўзлі да немца, прасілі хлеба. Ён даў нам па кусочку і загадаў больш не прыходзіць, бо заб'е; пакуль мы вярнуліся ў акопы, той хлеб з'елі. На акопах палонныя галадалі і ўміралі, але нельга было ім дапамагаць.

Калі рускія адагналі немцаў, пагналі нас на тылавую такімі *купамі*, што страх глядзець было. Гаварылі, што *на родину*, але на пунктах *распределяли* кароў у Расію гнаць. Адна польская сям'я падказала мне, каб я запісалася палячкаю, то рускія не возьмуць кароў паганяць у Расію. Я так і зрабіла. Ішла з палякамі аж у Варшаву. У Прусіі хадзілі па нямецкіх хатах і бралі што папала, бо баяліся, што немцы адступаючы патруцілі ежу. А ўжо ў Польшчы палякі давалі хто што мог. З Варшавы кожны пайшоў у свой бок. Ад нас людзей не было і я ішла адна; заходзіла паесці, адпачыць. З адной хаты прыйшлося ўцякаць, бо там пілі і гулялі. І так да Беластока.

З Беластока ехаў чалавек канём. Пытае мяне адкуль я і куды іду.

— Хацця ў Кленікі, — папрасіла я, бо быў ён з Сапава.

— У Кленікі падвязу. А што маеш у валізцы?

— Нічога, бо ўсё рускія пазабіралі.

Рускія грабілі, з рук вырывалі. Хай іх халера з тымі рускімі — яны нядобрыя людзі. У мяне толькі прасціна асталася і я яе аддала падвозчыку, бо ўжо ніхто не хацелі ісці. Прывёз ён мяне ў Кленікі і кажа:

— Завязу я цябе ў Ласінку, то мо твой бацька дроў мне дасць.

Прывёз ён мяне ў Ласінку, а тут і бацькі няма, і дроў няма...

Калі немцы адступалі, мая сям'я схавалася ў акопе ў полі. Немец заўважыў іх і, мо падумаўшы, што гэта рускія, раз'ехаў танкам акоп. Толькі брацік мой выратаваўся, бо сядзеў збоку. Адгроб ён зямлю, вылез і пайшоў да людзей. Сусед збіў скрынку, у якой і пахавалі маіх бацькоў. Брат жыў у суседа, дапамагаў яму. Уся наша сядзіба згарэла, я нават таго месца не магла пазнаць.

Тады я з тым маім падвозчыкам паехалі ў Рэпіскі, да маёй цёткі; яе чалавек даў сапаўцу фуру дроў.

А я асталася жыць у цёткі. Мела яна пяцёра сваіх дзяцей і не было мне дзе спаць, то я начавала ў цётчыных суседзяў. Праз два гады выйшла я замуж за аднавяскоўца. Яго цётка, што жыла ў Гарадзіску, не мела дзяцей і мы прыйшлі на яе гаспадарку, дагадаваць яе.

Мой муж памёр шэсць гадоў таму. Ён таксама быў у нямецкім палоне, але на захадзе Германіі. У немца добра яму было, а як прыйшлі амерыканцы, то яшчэ ўсяго надавалі, што нават з шаколадкамі дадому вярнуўся.

Аднойчы, бадай пры Герку, муж паехаў за справамі ў Чаромху. А там эшалон стаяў з усходненямецкімі салдатамі, якія вярталіся з вучэння ў Савецкім Саюзе, дык ён да іх пайшоў пагутарыць. Адзін з тых салдатаў быў з тых ваколіц, дзе муж быў у палоне. Шчыра пагутарылі і вельмі сардэчна развіталіся; салдаты надавалі яшчэ мужу на дарогу папяросаў і шакаладак. А пра Расею гаварылі яны *Russland Dreck* (бруд, г...).

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Вялікая кніга наіўных

Спробы выманіць грошы ад прастадушных людзей набываюць розныя формы. Вельмі распаўсюджаным спосабам ашуканства з'яўляюцца прапановы атракцыйнай саматужнай працы для замежных прадпрыемстваў. Абяздоленыя беспрацоўныя часта плацяць рэкламным фірмам апошнія 50-70 злотых, спадзеючыся атрымаць адрасы замежных работадаўцаў. Пакрыўджаныя такім чынам людзі пішуць потым скаргі ў праваахоўныя органы. Па просьбе заступніка грамадзянскіх правоў такой формай абдурвання людзей зацікавіліся ўжо апеляцыйныя пракуратуры. Іншыя формы выманьвання грошай практычна не падвяргаюцца пакаранню.

Апошнім часам намножылася розных суполак, якія прапануюць шматлікія паслугі або каштоўныя выйгрышы за, здавалася б, невялікія грошы. Напрыклад, два-тры гады таму мая жонка атрымала па пошце „сертыфікат", з якога на першы погляд выніката, што стала яна ўладальніцай шыкарнай машыны маркі „БМВ". Калі ўважна пaглядзела ў дасланыя паперы, аказалася, што можа выйграць яе тады, калі закажа ў гэтай фірме касметыку за 200 зл. Жонка аднак нічога не заказала і „БМВ"... прапала. Пазней прыходзілі іншыя прапановы, якія манілі 250 мільёнамі злотых наяўнымі, наборам каструляў маркі „Цэптэр", а нават экскурсіяй у экзатычныя краіны.

Аматары лёгкай нажывы што і раз прыдумваюць новыя спосабы абдурвання наіўных людзей. Цяпер нават ужо перайшлі з матэрыяльнай сферы ў духоўную. Вось нядаўна на мой хатні адрас прыйшоў ліст з Кракава. Ужо на канверце, над адрасам, відней надпіс: „Неўзабаве будзе выдадзена незвычайная, новая кніга прозвішча Луба. Віталь Луба таксама ў ёй знаходзіцца!" З канверта высыпаліся ліст, бланк заказу, нота ад выдаўца і каляровая паштоўка, на якой шчаслівая сям'я разглядае гэтую „незвычайную кігу". У лісце кракаўская фірма c/o DM Agencja sp. z o.o. паведамляла мне, што дзякуючы аграмаднай працы былі сабраны весткі з усяго свету аб усіх асобах па прозвішчу Луба і што фірма гатова выдаць кнігу на гэту тэму. Рыхтуючы кнігу іхныя супрацоўнікі дайшлі да 170 мільёнаў сем'яў у Польшчы, Галандыі, Італіі, Іспаніі, Францыі, Швейцарыі, Аўстрыі, Нямеччыне, Англіі, Шатландыі, Уэльсе, Ірландыі, ЗША, Канадзе, Паўднёва-Афрыканскай Рэспубліцы, Новай Зеландыі і Аўстраліі. У выніку гэтай тытанічнай працы паўстаў „самы вялікі і найноўшы рэестр сем'яў па прозвішчу Луба — Anno Domini 1998". Апрача пераліку цёзкаў па прозвішчу ў „Вялікай кнізе прозвішча Луба" мелі быць змешчаны раздзелы пра еўрапейскую эміграцыю ў Амерыку, герб роду Лубаў і парады, як скласці сваю генеалагічную табліцу і як наладзіць кантакты з родзічамі за мяжой. Да ліста была прыложана нота ад выдаўца, у якой паведамлялася, што кніга памерамі 21x27 см будзе пераплецена імітацыяй скуры ў колеры металізаванага графіту з адціснутым срэбрам і золатам гербам. Каб атрымаць такую незвычайную кнігу — за адзіныя 139 злотых — трэба было заказаць яе на працягу 15 дзён. А ўнізе гэтай ноты, дробненькім шрыфтам, было яшчэ напісана: „Выдавец і распаўсюджвальнік пакідаюць за сабой права адмовіцца выканаць заказ".

Да прапановы кракаўскай фірмы паставіўся я скептычна, прадчуваючы ашуканства. Тым больш, што сям'я ў мяне на Усходзе, а мае сялянскія продкі гербам не карысталіся. Неўзабаве ў мае рукі трапіла варшаўская газета „Жыцє" з артыкулам Гражыны Завадкі „Вялікая кніга ашуканстваў", які пацвердзіў мае падазрэнні. У ім апісваліся прыгоды Тамаша Шміта, якому прапанавалася заказаць „Вялікую кнігу прозвішча Шміт". Падобныя „аферты" атрымоўваюць жыхары Варшавы, Кракава, Гданьска і іншых гарадоў. Аказваецца, што ў Кракаве пад пададзеным адрасам працуюць 20 фірм, але сярод іх няма таямнічай c/o DM Agencja sp. z o.o., а дазваніцца да яе таксама нікому не ўдалося.

У Польшчы абавязвае закон аб ахове асабовых даных. Здавалася б, што з моманту ўступлення яго ў сілу хатнімі адрасамі грамадзян без іх ведама перастануць карыстацца рэкламныя фірмы, якія прапануюць розныя „атракцыйныя" паслугі. Але каб паказаць сваю законапаслухмянасць c/o DM Agencja sp. z o.o. паведамляе лаяльна, што нашы даныя былі сабраны раней, „з публічна даступных крыніц да 30 красавіка 1998 г.", а іх адміністратарам з'яўляецца амерыканская фірма NUMA Corporation у горадзе Бэт у штаце Агайо.

Закон законам, а жыццё нясе свае карэктывы. Застаецца асцярожна ставіцца да „суператракцыйных прапаноў", якімі закідаюць грамадзян нядобрасумлення дзялкі.

**Віталь Луба**

# Чый Міцкевіч?

Прачытаў я гутарку Ады Чачугі п.з. „Міцкевіч: зямля, культура, памяць" („Ніва" н-р 42) і задумаўся, наколькі палякі фанаты, пустыя людзі а таксама ілгуны. Аўтарка вяла размову з не абы-кім: з прафесарам Універсітэта ў Беластоку Альжбетай Фэліксяк, якая рашуча сцвердзіла, што Міцкевіч толькі паляк і ніякі беларус, каб хоць чытачы „Нівы" не падумалі, што Міцкевіч мог мець нейкія сувязі з беларускім народам. Аднак Міцкевіч па крыві быў палякам, беларусам і яўрэем; ці паважаная прафесар не ведае гэтай ісціны? Я, просты чалавек, і то ведаю, а яна — не! Смехата...

Бацька Адама, Мікалай, — тыповае беларускае імя. Спадарыні Адзе трэба было спытацца ў пані прафесар, дзе падзеліся сшыткі, у каторых Адам Міцкевіч прабаваў сваіх першых сіл у паэзіі, бо менавіта гэтыя вершы вяшчун пісаў на беларускай мове. Яны недзе падзеліся так, каб белы свет ніколі не даведаўся, што Міцкевіч свае першыя вершы пісаў па-беларуску. І тут цікавая справа: бальшавікі дакументы пра свае цёмныя спраўкі, нават у Катынскай справе, беражліва захоўвалі, а палякам тыя дакументы, якія іх не славяць, недзе прапалі. Беларусы не тояць, што іх вяшчун Янка Купала быў каталікам і свае першыя вершы пісаў па-польску; гэта нават пахвальна, бо ўмеў ён пісаць і так, і так. Чаму рускія не баяцца сказаць, што іхні Пушкін меў карані ў далёкай Паўночнай Афрыцы, а Лермантаў меў продкаў з Шатландыі? І для разумных людзей Адам Міцкевіч больш беларус, чым паляк. Сваю геніяльную паэму „Пан Тадэвуш" ён прысвяціў сваёй „малой айчыне" — Беларусі, апалячанай беларускай шляхце і простым людзям. А таксама „Дзяды" — гэта чыста беларускі фальклор. І апошнія яго творы таксама славяць родны край.

Смешна чытаць вывады Альжбеты Фэліксяк, што і сябры Міцкевіча Ян Чачот, Тамаш Зан ці Уладыслаў Сыракомля былі чыстымі палякамі, бо стваралі польскую культуру, свядома, аднак, падтрымліваючы культуру беларускую. Дык няхай так і будзе, я не супраць. Бо напэўна і мы сёння палякі, бо ствараем польскую культуру, свядома, аднак, „падтрымліваючы" культуру беларускую.

Паважаная прафесар даводзіць, што малая айчына Адама Міцкевіча, Навагрудчына, адвечная частка Рэчы Паспалітай. Але гэта абсурд, бо Навагрудчына была законнай часткай Вялікага княства Літоўскага, а пасля пераходзіла з чужых у чужыя рукі. А вядома, як чужыя „ствараюць сваю культуру".

Здзіўляюся толькі, чаму палякі не хваляцца так сваім Феліксам Дзяржынскім так, як Міцкевічам. Хваліліся б, калі б той плячо ў плячо ішоў з Пілсудскім так, як ішоў з Леніным.

**Мікалай Панфілюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Увайшла ў маю хату незнаёмая дзяўчына і на кухонны стол палажыла кавалак шэрага палатна (такім палатном накрываюць у труне нябожчыкаў). На гэтым палатне чорнымі, тоўстымі, вялікімі літарамі было напісана па-руску: „Молись за здоровье всех и молись за души усопших и за душу свою".

Я прачнулася і вельмі перапужалася. У гэтую ноч я сябе дрэнна адчувала. Пэўна штосьці нядобрае мяне чакае, а як па-твойму, Астроне?

**Кацярына**

Сніцца мне, што ў майго чатырохгадовага сына вырасла барада (не густая, рэдзенькая, але валасы доўгія), таксама валасатыя яго грудзі, у кучаравыя, мяккія лёкі. Валасы не дзіцячыя, а як у дарослых мужчын.

**Валя**

Кацярына! Мо ты занадта часта думаеш пра смерць?! Тое, што нейкая незнаёмая дзяўчына палажыла на кухонны стол кавалак шэрага палатна, якім накрываюць у труне нябожчыкаў, яшчэ не абазначае, што зараз жа цябе гэтым палатном накрыюць. А што надпіс на палатне заклікаў да малітвы за здароўе ўсіх ды за душы памерлых і за сваю, у гэтым таксама нічога кепскага. Так трэба рабіць заўсёды — гэта гавару табе я, стары Астрон. Але магчыма, што сон быў звязаны з кепскім станам твайго здароўя.

Валя! Цябе не магу пацешыць. Доўгія, прыгожыя валасы маглі б прадвяшчаць табе нейкі прыбытак, нават багацце, але ў тваім сне яны выступаюць як анамалія: у дзіцяці вырасла рэдзенькая барада і валасатыя яго грудзі. Ды і валасы не дзіцячыя, а як у дарослых мужчын.

Баюся, што будзеш мець непрыемнасці ў сувязі з цэлым гэтым прыбыткам.

**Астрон**

# Аб'язныя крамы

Калі ў гміне Нарва ўпадаў ГС, людзі па вёсках бедавалі, што цяжка будзе ім жыць без крамы. Засталіся мураваныя будыніны і свецяць пусткаю, палохаючы людзей. Прыйшоў сындык у Нарваўскі ГС ды распрадаў маёмасць, часам нават за бясцэнак. Але неяк усё ўтрэслася і цяпер сяляне, а асабліва пенсіянеры, не наракаюць.

Па вёсках пачалі ездзіць аб'язныя аўтакрамы з рознымі таварамі. У маіх Бялках краму прадалі за 1000 злотых. Яна і цяпер стаіць пустая. Затое прыязджаюць аб'язныя крамы, нават па некалькі ў дзень, толькі купляй тавар. Аўтакрама з Нарвы, якая належыць уласніку мясцовай пякарні, прыязджае тры разы ў тыдзень. Можна ў ёй заўсёды купіць свежы і смачны хлеб ды іншыя неабходныя прадукты. Пакупкі ў гэтай краме можна рабіць у панядзелкі, серады і пятніцы. Прадавец гэты вельмі ветлівы, з пашанай адносіцца да сваіх кліентаў. Па аўторках прыязджае крама з Міхалова. У ёй ёсць халадзільнікі і можна купіць свежае мяса і мясныя вырабы.

У кожную суботу прыязджае крама з Беластока з харчпрадуктамі. Наведвае нас таксама два разы ў тыдзень крама з Заблудава. Цяпер стала прыязджаць крама з Гайнаўкі, таксама тры разы ў тыдзень. Час ад часу заязджаюць да нас крамы з вопраткай ды абуткам. Трапляюцца „рускія" гандляры са спіртам. Некаторыя прадаўцы не вылучаюцца ветлівасцю і некаторыя пакупнікі проста да іх не выходзяць.

Найгоршая справа заключаецца ў тым, што ў кожнай краме іншая цана і кожны прадавец бярэ за тавар колькі захоча. І яшчэ адна кепская справа. У сялян няма грошай, бо няма дзе прадаць ні свіней, ні ялавічыны, а за малако вельмі мала ім плацяць. Пакуль селянін будзе плакаць, датуль яшчэ будзе добра, але калі ён пачне смяяцца, то трэба ведаць, што будзе кепска, бо ў селяніна не будзе чаго забраць нашым фінансавым уладам, а і селянін перастане плаціць падатак. Уладам ужо цяпер трэба сур'ёзна падумаць пра селяніна.

**Мікалай Лук'янюк**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Аптымізм высокага ўзроўню

Наша старэйшая сястрычка, Расея, змагаецца з часовымі цяжкасцямі. Усялякія імперыялісты, якія, як вядома, водзяцца толькі на гнілым захадзе, з алімпійскім задорам абганяюцца ў падачах расейцам розных карысных, хаця складаных, парад дзеля найбольш паспяховага змагання са згаданымі цяжкасцямі. Але на тыя вучоныя, незразумелыя парады простаму (пост)савецкаму чалавеку — *наплевать*. У неабсяжнай расейскай краіне вялікія рэсурсы і звышталенавітых тэарэтыкаў усялякага шчасця, у тым ліку і ідэолагаў простага пераадольвання ўсялякай нявыгаднай *ерунды*. Вось наш старэйшы расейскі брат Альберт Макашоў, таварыш з нейкай партыі, якая паводле аднаго з нашых ніўскіх вядучых палітолагаў карыстаецца двухпрацэнтнаю падтрымкаю тамашняга электарату і такім чынам у Думе мае бадай звыштрыццаціпрацэнтную фракцыю, аптымістычна вырашыў, што рэцэптамі на эканамічныя клопаты з'яўляюцца строгі нагляд і рэгламентацыя ў дачыненні да інфармавання грамадзянства ды падборка кадраў паводле нацыянальнага прынцыпу; як у Германіі на шэсцьдзесят пяць гадоў раней. Інфармацыйная свабода, як найбольш спрактыкаваным з нас добра вядома, дэстабілізуе палітычную сітуацыю не толькі ў Расеі, але і ў неадлеглым наваколлі. Тое ж самае можна сказаць і пра падборку і адсяванне кадраў паводле нацыянальнасці; усё *людское* і нам не чужое.

Паводле загалоўка меў я пісаць пра аптымізм, а апынуўся пры палітыцы, якою перадавыя беларусы, як вядома, не займаюцца, бо ўспрымаюць яе з агідаю, а радавыя... Вось у адным з грамадска-культурных часопісаў адзін наш ідэолаг аптымізму (назву яго Джорджыкам) мемуарнічае, як гэта ён калісь быў кланяўся будучай ваяводзе і тыя паклоны *na pewno przyczyniły się do złagodzenia polsko-solidarnościowo-białoruskiej nieufności*, у выніку чаго *bez żalu postanowiliśmy wyprowadzić się* бо *administrator budynku (...) wręczył wypowiedzenie umowy najmu ze względu na «potrzeby własne» właściciela, czyli białostockiej Solidarności*. Клас! Талейран бы такога не прыдумаў. Трэба было кланяцца яшчэ ніжэй! Далей мой Джорджык падаўся з мусу ў хату слаўную тым, што *niemal co tydzień podążają tu, omijając Białystok, wybitni intelektualiści z Polski, Białorusi, Niemiec, Anglii, Włoch, USA... — pisarze, publicyści, dziennikarze, politycy, naukowcy i studenci. Все и вся.* А ўсё дзеля таго, каб *podnieść* грамадска-культурны часопіс *na wyższy niż dotychczas poziom*. Ці Макашоў не мае рацыі? Дацы паводле нацыянальнага прынцыпу выспятак *ze względu na potrzeby własne* каб вытуранага *podnieść na wyższy niż dotychczas poziom*! Будучыня — аптымістычна светлая!

Падставы для аптымізму мае таксама брытанскі прынц Чарльз. Нейкая семідзесяціпяцігадовая бабулька звязала яму футляр даўжынёю ў дваццаць тры сантыметры на тую габарытную дэталь, дзякуючы якой з'яўляецца ён прынцам уэльскім а не, напрыклад, кентскай прынцэсай. Каралевіч можа з аптымізмам чакаць зіму, бо не прастудзіць важную дэталь, а і бабулька хіба поркала кручком з аптымізмам і надзеяй, што асабіста апране аўдавелага і нестарога яшчэ прынца: можа і ёй што *капне*, калі падніме *na wyższy poziom*.

**Адам Маньяк**

Макатразмы

## 13 смярцей

***(магільны сцэнарый знойдзены ў Харошчы)***

Кожны хоча памерці незвычайна:

1. Польскі палітык — калі не ў Чэнстахове (урачыста), дык на *TV* (трыумфальна).
2. Ксёндз — у Ватыкане. Папам.
3. Рабочы — на галадоўцы. Гегемонам.
4. Падначалены — пасля шэфа. З вужам за пазухай.
5. Пан Твардоўскі — на Месяцы. У самоце.
6. Беларускі паэт — калі не на Парнасе, то прынамсі на прыдарожным узгорку. Абавязкова з рукамі раскінутымі ўшыркі.
7. Зянон Пазьняк — у Нью-Йорку. Калі дазволяць — на сесіі ААН. Дэманстратыўна.
8. Яўген Міранович — у барацьбе з Лукашэнкам. Гераічна.
9. Сакрат Яновіч — на рыбалцы. З Валенсам. Ты рыбак і я рыбак.
10. Цыган — на вісельні. З кампанікам.
11. Моніка Левінскі — на чэлясе Клінтана. Пакутна.
12. Ельцын — у Крамлі. Царом.

Адзін селянін прагне памерці ў роднай хаце. Ніхто не жадае адысці ў лепшы свет невядомым салдатам.

Ашалелі яны, ці што?

**Сідар Макацёр**

Фрашкі пра нашых

## Сеніёры-макацёры

Шчэрыць зубкі Тэкля Глебу
(Хоць зубкі не ўласныя):
Выбрацца ў тэатр ім трэба,
П'еса, кажуць, класная,

Граюць іхныя калегі
З клуба пенсіённага
(Хоць старыя — усё падбегам,
Хоць слабыя — плённыя).

Ой, схацелі б Тэкля з Глебам
Што сказаць па-свойскаму,
Але ж п'есы нашай трэба,
Хоць трошкі няпольскае.

**Вандал Арлянскі**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | *2* | 4 |
| *7* | ■ | 5 | 6 | *3* | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | *5* | ■ | 9 | *1* |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| *6* | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | *4* | |

**Гарызантальна:** 1. кароткі вершык гумарыстычнага зместу, напр. „пра нашых", 3. спецыяліст па русістыцы, 5. змагар супраць расейскага панавання ў Дагестане і Чачні (1798—1871), 7. буйная драпежная жывёліна сямейства кашэчых з паласатым футрам, 9. напітак з молатых зярнят кафейнага дрэва, 10. пратэстант-камуніст, 11. напр. Каліфорнія, 12. род дзяржаўнага аб'яднання цюркскіх народаў, 14. доўгая сялянская верхняя вопратка, 16. медны духавы музычны інструмент у выглядзе ражка, 17. Леў, ваявода і гетман, грамадскі і ваенны дзеяч Вялікага княства Літоўскага (1557—1633).

**Вертыкальна:** 1. ядомыя плады садовых дрэў (мн. лік), 2. густая страва са звараных круп, 3. прыстасаванне для кіравання рухам аўтамабіля, 4. від яды, напр. каша, 6. сан архіепіскапа Савы, 8. ярка-чырвоны плод паўднёвага дрэва з кісла-саладкім смакам, 9. зорка, альфа Блізнят, 11. выхадка, выдумка, 13. „Не конь вязе, а ...", 14. „... не без добрых людзей", 15. „Касі, ..., пакуль раса, раса далоў — касец дамоў".

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 41 нумара**

**Гарызантальна:** смала, плюралізм, Бірма, кагал, Янг, Стафард, агрэсар, Алі, акант, труба, Армстранг, Роўна.

**Вертыкальна:** Гагарын, сцюжа, аміяк, парафраза, Магдэбург, бітва, Луара, яда, ГАІ, „Лістоўе", тэмбр, трава.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Баксёр сядае ў фатэль у дантыста чакаючы на вырыванне зуба. Лекар пытае яго:

— Мо даць укол ад болю?

— Калі пра мяне мова, дык гэта неабавязкова, але калі пра вас, дык шчыра вам раджу.

* * *

— Мая сястра мае шчасце.

— Чаму?

— Была на вечарыне, на якой кожны хлопец быў вымушаны або пацалаваць дзяўчыну, або даць ёй шакалад.

— Ну і што?

— Прынесла дадому дваццаць шакаладак.

* * *

— Сёння раскажу вам, як паявіўся першы чалавек, — аб'яўляе ксёндз вучням.

— Мы хочам, — адказваюць вучні, — каб ксёндз расказаў нам, як паявіўся трэці чалавек.

* * *

Дзве дзяўчыны выходзяць з забавы, а за імі два хлопцы, якія хочуць іх адвезці самаходам дадому.

— Дзякуем, — адказваюць дзяўчыны, — надвор'е такое цудоўнае, што пойдзем пяшком.

Праз хвіліну неспадзявана пачынае церушыць дождж. Усе паглядаюць уверх і з балкона адзываецца хлопчык:

— Не бойцеся дажджу: я трымаю хмару ў руцэ.

* * *

Ветлівы юнак памог пажылой жанчыне і занёс яе чамадан на пяты паверх.

— Гэта вельмі ветліва з вашага боку, — дзякуе бабулька. — Ці вы курыце?

— Так, — адказвае з надзеяй малады чалавек.

— Я так і падумала адразу: вы так стаміліся, што павінны кінуць курэнне.

* * *

— Меў я рацыю, калі гаварыў свайму дзедку, каб не хадзіў па начных рэстаранах, бо там можа яго спаткаць няшчасце.

— А што: спаткаў каго?

— Бабулю.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, у мяне склероз.

— А чым гэта праяўляецца?

— Што праяўляецца?